*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# Наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года **№ 14(399)** **7 КРАСАВІКА 1999 г.**

## Хрыстос уваскрос



**Хрыстос васкрос!... Усюды радасць,
Усё глядзіць смялей, святлей;
Вялікі Мучальнік, здаецца,
Абняў усіх ласкаю сваей**

**Хрыстос васкрос!... Неугамонна
Плыве па нівах, пушчах клік,
Плыве адна святая думка
З канца ў канец, як свет вялік.**

**Хрыстос васкрос! -- пяе сялянін
З сваёй убогаю раднёй,
Забыўшы песьні аб прадвесні,
Забыўшы ўсё сваёй душой.**

**Хрыстос васкрос! -- пяе сіротка,
Слуга таптаная людзьмі!
Пяе ў чужыне падарожны,
Забыты бліжнімі сваймі.**

**Хрыстос васкрос! -- пяюць і тыя,
Хрыста згубіўшыя сыны,
Што ў ціхамолку ладзяць сеткі
Для нашай беднай стараны.**

**Хрыстос васкрос!... К Табе, о Божа,
І я ў дзень гэты думку шлю:
Хай Беларусь, мая старонка,
Ускрэсьне к лепшаму жыццю.**

***1908 г.*** ***Янка Купала***

## Зварот ТБМ да беларускіх прадпрымальнікаў

Сябры!

ТБМ выказвае шчырую падзяку ўсім беларускім бізнэсоўцам, якія дапамагалі нам у цяжкі для арганізацыі час. У многім толькі дзякуючы гэтай падтрымцы ТБМ удалося выйсці з цяжкога фінансавага становішча, у якім яно апынулася пасля рашэння Гаспадарчага суда Партызанскага раёна г. Менска аб пазбаўленні ТБМ права карыстання сядзібай і накладанні штрафу ў 540.000.000 рублёў. Пасля таго, як пастановай судовых уладаў быў разблакаваны рахунак ТБМ, у грамадзян з'явілася магчымасць пералічваць свае ахвяраванні на дзейнасць нашай арганізацыі. За тыя грошы, што паступалі на наш рахунак ад шэрагу камерцыйных фірм і прыватных прадпрымальнікаў, нам удалося разлічыцца з усімі даўгамі, вярнуцца ў нашую сядзібу на Румянцава 13, аднавіць дзейнасць рэгіянальных структур ТБМ, павялічыць наклад і пашырыць аб'ём газеты "Наша слова".

Мы шчыра ўдзячныя ўсім тым, для каго не абыякавы лёс беларускага народа і яго мовы, усім, хто не застаўся ў баку ў выпрабавальны, цяжкі для ТБМ час.

Не забывайцеся, што ў многім і ад Вас залежыць, у якой дзяржаве будуць жыць нашыя дзеці: у заможнай і дэмакратычнай ці ў таталітарнай і жабрацкай.

Суграмадзяне, у гэтыя веснавыя дні ТБМ рыхтуе свой чарговы, шосты па ліку з'езд. На ім будзе вызначана, хто стане прадстаўляць нашую арганізацыю ў бліжэйшыя два гады.

Аднак, для арганізацыі і правядзення з'езду неабходна значная колькасць фінансавых сродкаў, якіх на дадзены момант катастрафічна не стае.

Звяртаемся да Вас з вялікай просьбай аказаць пасільную дапамогу Таварыству. Вельмі часта прадпрымальнікі палохаюцца пералічваць грошы са сваіх рахункаў у сувязі з магчымасцю рэпрэсіўных захадаў з боку сённяшніх беларускіх уладаў. Таму кожны з Вас можа пералічыць добраахвотныя ахвяраванні на дзейнасць ТБМ як фізічная асоба праз любое аддзяленне ашчадбанка "Беларусбанк" (камісійны збор пры гэтым не бярэцца).

**Сакратарыят ТБМ.**

Ужо тыдзень знаходзіцца пад наглядам міліцыі, або пад так званым хатнім арыштам сябар рэдкалегіі газеты "Наша слова" **Лілея Сазанавец**. Віна яе не вядомая, а прычына такой увагі з боку міліцыі ў тым, што спадарыня Лілея з'яўляецца сябрам Цэнтральнай камісіі па выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

## ТБМ Магілёўскай вобласці перад з'ездам

**Перарэгістравана пяць Радаў з 17:**

1. Магілёўская абласная;
2. Горацкая раённая;
3. Асіповіцкая раённая;
4. Бабруйская гарадская;
5. Касцюковіцкая раённая.

**Заплаціла сяброўскія складкі за 1998 год толькі Магілёўская абласная Рада.**

**На 6 з'езд вылучана толькі 7 дэлегатаў:**

1. Бахманава Святлана - ад суполкі г. Бабруйска;
2. Кальчэўскі Ігар - ад суполкі г. Барысава;
3. Грынявіцкі Юры - ад ТБШ;
4. Маліноўскі Віктар - ад суполкі г. Бабруйска;
5. Клімуць Я.І.- ад Магілёўскай гар. Рады;
6. Украінка С.С. - ад Магілёўскай гар. Рады;
7. Колік А.М. - ад Магілёўскай гар. Рады.

## Падзяка БАЖ

**Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны выказвае шчырую падзяку Беларускай асацыяцыі журналістаў (БАЖ) за аказаную фінансавую дапамогу пры падпісцы юрыдычных асоб на газету "Наша слова". Дзякуючы гэтай дапамозе 1000 школ і школьных бібліятэк (гарадскіх, раённых, вясковых) па ўсёй Беларусі атрымалі бясплатную падпіску на "Наша слова". ТБМ спадзяецца і надалей падтрымліваць шчыльныя кантакты як з БАЖ, так і з іншымі арганізацыямі, якія пажадаюць далучыцца да гэтай высакароднай акцыі.**

***30.03.1999 г.***
***Сакратарыят ТБМ***

## Сяброўскія складкі арганізацый ТБМ

Стан на 31 сакавіка 1999 года па здачы складак сябрамі ТБМ за 1998 год.

| | |
|---|---|
| Светлагорская арганізацыя | 1.035.000 руб. |
| Касцюковіцкая арганізацыя | 300.000 руб. |
| Кафедра бел. літ. Віцебскага дзяржуніверсітэта | 1.605.000 руб. |
| Суполка інстытута тэх. кібернетыкі | 1.310.000 руб. |
| Суполка інст. экспер. батанікі | 660.000 руб. |
| Суполка інст. генет. і цыталогіі | 150.000 руб. |
| Рада МДПК № 1 | 1.030.000 руб. |
| Суполка палітэхнічнай акадэміі | 350.000 руб. |
| Суполка ЗАТ "Сотвар" | 1.840.000 руб. |
| Суполка жыхароў м-на "Зялёны луг - 7" | 1.200.000 руб. |
| Магілёўская гарадская арганізацыя | 1.400.000 руб. |
| Суполка Менскага лінгв. універсітэта | 800.000 руб. |
| Суполка г. Бабруйска | 105.000 руб. |
| Мазырская арганізацыя | 410.000 руб. |
| Ваўкавыская арганізацыя | 1.000.000 руб. |
| Горацкая раённая арганізацыя | 307.000 руб. |
| Суполка тэхналагічнага універсітэта | 1.370.000 руб. |
| Маладзечанская арганізацыя | 500.000 руб. |
| Разам на суму: | 15.372.000 руб. |

## Падпіска на "Наша слова" працягваецца

Сакратарыят ТБМ падпісаў 12 асобнікаў газеты "Наша слова" раённым бібліятэкам Хойнікаў, Чачэрска, Лельчыц, Нароўлі, г.п. Церахава Добрушскага р-на на Гомельшчыне і бібліятэкам Лепеля, Лёзна, Сянно і Бешанковіч на Віцебшчыне. Зараз падпіскай на газету ТБМ ахоплены тыя раёны, дзе у першым квартале 1999 года не было ніводнага падпісчыка на "Наша слова".

## Збор подпісаў за Беларускі нацыянальны ўніверсітэт працягваецца

У рэдакцыю прадаўжаюць паступаць бланкі, надрукаваныя пэўны час таму назад у нашай газеце з подпісамі грамадзян Беларусі за адкрыццё Беларускага нацыянальнага ўніверсітэта. За апошнія тыдні 40 подпісаў паступіла з Менска, 21 - з Полацка, 109 - з Ліды, 20 - з Узды, 1 - з Жодзіна, 10 - з Жыткавічаў, 10 - з Лагойска, 16 - з Гародні. У бліжэйшы час мы надрукуем бланк яшчэ раз.

## Ахвяраванні на ТБМ

| | |
|---|---|
| 1. Уладзімір Конан, Менск | 500 000 руб. |
| 2. Мастацтвазнаўца з Менска | 500 000 руб. |
| 3. Пульманоўская Г., Анісава К. м. Свіслач Пухавіцкага р-на | 300 000 руб. |
| 4. Алена Дзедава, Наваградак | 1 000 000 руб. |

**Кафедра беларускага і тэарэтычнага мовазнаўства Гарадзенскага дзяржаўнага універсітэта:**

| | |
|---|---|
| 1. Багдзевіч | 100 000 руб. |
| 2. Бубновіч | 100 000 руб. |
| 3. Варановіч | 100 000 руб. |
| 4. Данілевіч | 150 000 руб. |
| 5. Навіцкі | 100 000 руб. |
| 6. Памецька | 150 000 руб. |
| 7. Патрэба | 100 000 руб. |
| 8. Сіпліваня | 100 000 руб. |
| 9. Сцяцко | 300 000 руб. |
| 10. Ламака | 50 000 руб. |
| 11. Кавальчук | 50 000 руб. |
| 12. Сячэйка | 50 000 руб. |
| Усяго | 1 400 000 руб. |

| | |
|---|---|
| 1.БВТ "Хата", г. Менск | 5.000.000 руб. |
| 2. Суполка ТБМ г. Шклоў | 400.000 руб. |
| 3. Карпенка Сяргей, г. Гомель | 200.000 руб. |
| 4. Новік Іван, г. Пінск | 300.000 руб. |
| 5. Менскі гадзіннікавы завод | 1.000.000 руб. |
| 6. СП "Прамэры", г. Менск | 10.000.000 руб. |
| 7. Катляроў І.Р., г. Менск | 500.000 руб. |
| 8. Кавальчук М.М., г.Ваўкавыск | 1.000.000 руб. |
| 9. Генрых Даніловіч, г. Вілейка | 200.000 руб. |
| 10. Плыткевіч Т.С., г. Гомель | 1.000.000 руб. |
| 11. Пятруковіч Васіль, г. Менск | 300.000 руб. |
| 12. ТАА "Вялес ЛТД", г.Менск | 15.000.000 руб. |
| 13. Ткачова В.С., г. Ваўкавыск | 100.000 руб. |
| 14. Смулько Н.І., г. Ваўкавыск | 100.000 руб. |
| 15. Шакаль Уладзімір, г. Слуцк | 300.000 руб. |
| 16. Старавойтава Святлана, г. Бабруйск | 300.000 руб. |
| 17. Маліноўскі В.Л., г. Бабруйск | 305.000 руб. |
| 18. Махнач Вера, г. Гродна | 500.000 руб. |
| 19. Маладзечанская арганіз. ТБМ | 500.000 руб. |
| 20. Суполка № 1 ТБМ "Зялёны луг", г. Менск | 1.200.000 руб. |
| 21. Цярохін Уладзімір, г. Менск | 6.000.000 руб. |
| 22. Смірноў Юрась, г. Менск | 20.000 руб. |
| 23. Кароўко Яўген, г. Менск | 500.000 руб. |
| 24. Петрашкевіч Алесь, г. Менск | 1.845.000 руб. |
| 25. Брыль І.А., г. Менск | 500.000 руб. |
| 26. Сямяновіч А.Л., г. Менск | 250.000 руб. |
| 27. Сямяновіч В.С., г. Менск | 250.000 руб. |
| 28. Содаль Уладзімір, г. Менск | 300.000 руб. |





# РОДНАЯ МОВА — ГАЛОЎНЫ БАСТЫЁН АБАРОНЫ БЕЛАРУСІ

З вялікай журбой прачытаў у "Народнай волі" ад 17 верасня 1998 г. ліст пенсіянера Івана Васілеўскага пад абуральнай назвай: "Народ не хочет разговаривать на этой деревенской, мужицкой мове".

Не хоча размаўляць і Іван Андрэевіч, які напісаў свой ліст на расейскай мове. Добрыя, аргументаваныя адказы на яго ліст далі кандыдат гістарычных навук Алег Трусаў і іншыя адданыя патрыёты Радзімы. Адказы былі настолькі пераканаўчыя, што аўтар зневажальнага ліста, напэўна, ужо шкадуе, што даслаў свой ліст у газету.

Паколькі дыскусія на старонках "Народнай волі" ўжо скончылася, а газета "Наша слова" да гэтай тэматыкі мае больш непасрэднае і прафесійнае дачыненне, то я вырашыў свой ліст — адказ даслаць вам і папрасіць яго надрукаваць. Мяркую, што гэта будзе на карысць нашай агульнай справе. На жаль, "Іванаў", не памятаючых роднасці, на Беларусі шмат і, напэўна, менавіта ад гэтага наша Радзіма зараз такая няшчасная. Погляды Івана Андрэевіча тыповыя для некаторай часткі беларусаў і большасці расіянаў.

Здраднікі заўсёды, адчуваючы ў глыбіні сваёй душы нейкую вінаватасць і імкнучыся неяк апраўдаць сябе перад сваім сумленнем, заўзята плявузгаюць на тое, чаму здрадзілі. Іван Андрэевіч, не разумеючы (а можа і наўмысна), ўбівае клін у ідэю незалежнасці Беларусі і дапамагае тым, хто яе не ўспрымае і каму яна перашкаджае. Мяркую, што прыехаўшым жыць да нас расейцам, якія мараць перацягнуць Беларусь у Расею, як Магамет гару, ліст Івана Андрэевіча будзе вельмі да спадобы, бо ён каштоўны ім падарунак і бальзам на іх "раны". Адмова ад роднае мовы і , тым больш, здзек з яе ёсць пачатак здрады Радзіме. Беларуская мова ў наш цяжкі і крытычны для Беларусі час застаецца амаль апошняй надзеяй зберагчы і абараніць Радзіму ад гістарычнай і этнічнай згубы.

Расейскай палітыцы ў дачыненні да Беларусі садзейнічае распрацаванае ідэалагічнае абгрунтаванне разам з прыдуманымі хлуслівымі міфамі, якія на душы антыпатрыятычных, даўшых сябе падмануць беларусаў дзейнічаюць, як гіпноз на зайца, калі ўдаў задумаў яго праглынуць. Але тое, што гэты заяц — дурань, добра разумеюць іншыя зайцы, якія яшчэ не паддаліся гіпнозу, або ўжо ад яго вызваліліся, бо не ўсе такія дурныя, як спадзяецца ўдаў.

Гавораць, што беларусаў раней не было, як быццам яны зараз нечакана з месяца зваліліся, або з іншай планеты прыляцелі. Ігнаруюць, што беларусы раней зваліся ліцвінамі, а Беларусь — Літвою, а яшчэ раней — крывічамі, драгавічамі і радзімічамі. Гавораць, што сучасныя рускія старэйшыя за беларусаў, а іх быццам заваявалі літоўцы, гэта значыць, саміх сябе (які цуд!). Сябе назвалі вялікаросамі, а нас з украінцамі аднеслі да "маларосаў", хоць менавіта украінцы да назвы "рускія" маюць першапачатковае дачыненне. Пры гэтым ігнаруюць, што менавіта сучасная расейская нацыя ў сярэднім мае пераважна малаславянскае ўгра-фіна-татара-мангольскае паходжанне, гэта значыць, больш азіяцкае, чым еўрапейскае, здзейсненае з дапамогаю царкоўнаславянскай асіміляцыі мясцовых народаў і змешаных шлюбаў. Расіяне, лічачы сябе больш старэйшымі за нас, бо прыстасаваліся і прысуседзіліся да нашых продкаў, ігнаруюць, што беларуская незалежная дзяржаўнасць з'явілася ў нас з заснаваннем у IX стагоддзі Полацкага і іншых асобных беларускіх княстваў у той час, як Масква, заснаваная ажно на 300 гадоў пазней, доўгі час не мела сваёй незалежнасці, бо спачатку была ўладаннем Кіева, а потым улусам татарскай Залатой арды. Сучасная Расея, наогуле, — гэта ў значнай сваёй частцы былая Залатвая арда, яе пераемніца і нашчадак. Маскоўская княства зрабілася незалежным толькі з 1480 года, калі канчаткова вызвалілася ад татарскага іга і назвалася Расеяй. Цікава, што незалежная дзяржаўнасць Беларусі старэйшая за расейскую болей, як на 600 гадоў. Цікава, што менавіта саміх расіянаў раней не было, а беларусы пад іншымі назвамі ўжо існавалі раней за расіянаў, гэта значыць, наадварот, як гавораць расіяне. Беларуская аб'яднаная дзяржаўнасць створаная ў XIII стагоддзі з дапамогаю Вялікага Княства Літоўскага, да якога пазней далучыліся Украіна, вызваленая ад татараў у 1365 годзе войскамі ВКЛ, і Жамойція, якая зараз карыстаецца нашай былой назвай.

Расейскія (і жамойцкія таксама) міфы прыніжаюць і зневажаюць гонар і годнасць беларусаў — ліцвінаў і незаконна ўзвышаюць расіянаў, для чаго яны і прыдумваліся. Менавіта для таго, каб беларус, страціўшы сваю гістарычную памяць і свядомасць, сядзеў і не рыпаўся ў складзе Расейскай імперыі і не прэтэндаваў на сваю законную гістарычную і этнічную незалежнасць.

Беларус, адмовіўшыся ад роднае мовы, але яшчэ горш, плявузгаючы на яе, сапраўдным беларусам ужо лічыцца не можа. Але душа яго там, недзе глыбока ўнутры, застаецца яшчэ беларускаю (ліцвінскаю) і, напэўна, ад крыўды на яго, недарэчнага, горка плача. Яна яму не даруе здрады і ў адказ можа нешта такое зрабіцца, што суседзі і знаёмыя потым падумаюць: "Гэтага чалавека, мабыць, бог пакараў, але шкада яго". Можа Чарнобыль ужо і быў такім пакараннем або папярэджаннем. Нашыя душы праз дабро і зло, якія мы творым, маюць дачыненне да бога альбо да д'ябла. Менавіта яны і кіруюць намі праз нашы душы. Нездарма ж, калі чалавек зрабіў зло, гавораць: "Д'ябал паблытаў", а той, хто творыць дабро людзям, як бы набліжаецца да бога і абараняю сябе ад д'ябла. Адрачэнне ад незалежнасці — гэта зло самому.

Вялікі цуд, калі былы беларус, які сабе 30 гадоў пражыў у Расеі, потым вярнуўся зноў на Беларусь, асмельваецца абражаць сваю былую родную і нашу з вамі мову замест таго, каб вярнуцца да яе зноў. Але яму перашкаджае яго лянота і недахоп любові да сваёй Радзімы. А потым піша, што ён любіць "свою милую и родную Белорусь". Але мова — гэта самая галоўная адметная рыса нацыі і, калі ты ад яе адрокся, то больш, чым напалову, ужо не беларус, а ператварыўся ў рэч для асіміляцыі і, дарэчы, у таго самага зайца, што загіпнатызаваны маною ўдава, сам паўзе да яго ў пашчу. Сама па сабе расейская мова прыгожая і вялікая, але ж гэтая мова з іншай краіны. Зараз, на жаль, з яе дапамогаю хочуць пазбавіць нас нацыі і дзяржаўнасці. Расейская мова ператварылася для беларусаў у сродак іх асіміляцыі, але каб захаваць сябе як нацыю, трэба берагчы сваю мову і карыстацца ёю як галоўнай.

Паважаны Іван Андрэевіч, мне прыемна было прачытаць у вашым лісце, што Вы любіце сваю Радзіму Беларусь, але, на жаль, Вы любіце яе не цалкам, а толькі тэрыторыю (гэта другая неабходная рыса нацыі). Але і расейцы таксама любяць тэрыторыю Беларусі (яны заўсёды любілі іншыя тэрыторыі), але любяць не шчыра. Яны, пераехаўшы да нас, больш любяць Расею і хочуць яе пашырыць за лік далучэння Беларусі. Яны вялікія патрыёты сваёй Радзімы, чаго недастае некаторым беларусам.

Радзіма — не толькі тэрыторыя, а ў супольнасці яшчэ і мова, гісторыя, культура і, вядома, людзі, утвараючыя адменую ад іншых народаў нацыю. Дзякуй богу, што Вы сваю Радзіму любіце, як самі пішаце, але любоў ваша да Беларусі без мовы застаецца нейкаю непаўнавартаю і недастатковаю. Гавораць, што любоў выратуе свет, але адсутнасць любові да мовы згубіць Беларусь, бо знікне нацыя, больш старажытная за расейскую, а тэрыторыю нашай краіны з дапамогаю вось такіх, як Вы, Іван Андрэевіч, далучаць да Расеі шавіністы з дапамогаю нашых калабарантаў. Нельга адракацца ад роднае мовы, бо яна надае нам адметнасць ад суседзяў і абараняе ад іх намаганняў, захоўвае нацыю і дзяржаву. Можа, Іван Андрэевіч, калі лепш падумаеце, зразумееце, якую вялікую шкоду наносіце сваёй Беларусі, хоць і любіце яе, бо прачытаўшы ваш ліст, просты беларускі люд атрымае ад Вас падтрымку ў сваёй ляноце супраць вяртання да роднае мовы і карыстання ёю, адмова ад якой зробіць безабароннай нашу Радзіму перад расейскім шавінізмам. Правільна казаў Вам Алег Трусаў, што без мовы не захаваецца Беларусь. А Вы, Іван Андрэевіч, гэтага нават не разумееце. Называеце беларускую мову "деревенской, мужицкой", але ж гэта і добра. Значыць, яна сапраўды народная і наша родная, як тая маці, ад якой нельга і грэх адрачыся, бо тады без яе станем сіротамі. І калі яна памрэ, то застанецца нам толькі народная, як мачаха, расейская мова. Расейскую мову, у адрозненні ад беларускай, Вы, напэўна, лічыце "панскай". Але не разумееце, што з дапамогаю гэтай "панскай" мовы расейскія шавіністы разам з тымі, хто ім дапамагае, хочуць запанаваць на Беларусі.

Гаротны лёс у нашай мовы, калі спачатку яе ўшчамлялі і забаранялі палякі, а беларуская шляхта ў значнай частцы ёй здрадзіла і паддалася паланізацыі, ратуючыся ад іншага зла — русіфікацыі. Потым забараняў яе і назву нашае краіны (Літва і Беларусь) расейскі цар і гвалтам перашкаджалі беларусам вучыцца на беларускай мове расейскія мураўёвы-вешальнікі. Далей, сталінскія злачынцы і каты знішчалі знаўцаў і абаронцаў роднае мовы, нашых вучоных, акадэмікаў і пісьменнікаў (Ластоўскага, Некрашэвіча, Лёсіка). А зараз ужо самі беларусы, хто пры ўладзе, адвучаюць свой народ ад яе, саромеючыся роднае мовы — скарба і спадчыны нашых продкаў. У другі раз ужо новая беларуская "шляхта", савецкая наменклаура, здраджвае нашай мове і Радзіме. І ўсё гэта робіцца на карысць далучэння беларусаў да Расеі. Вось і Вы, Іван Андрэевіч, дапамагаеце гэтай ганебнай справе супраць сябе і "сваей милой и родной Белоруси".

Натуральны працэс развіцця і ўдасканалення беларускай мовы парушаны і запаволены. Закрываюцца беларускамоўныя школы і класы, а значная частка беларускага народа не карыстаецца сваёй мовай і не ўдзельнічае ў яе далейшым развіцці і ўдасканаленні. Наша мова, як і мы з вамі, не мае поўнай свабоды, а пры адсутнасці або пры яе недахопе настае застой, як у тым балоце, дзе нерухомая вада, смярдзіць і толькі жабам падабаецца. Каб родная мова падабалася і не здавалася камусьці недарэчнаму дрэннай і мужыцкай, трэба ёю карысацца пастаянна, як карыстаюцца сваімі мовамі іншыя, нармальныя народы. Яны ведаюць і іншыя мовы, але свая, родная у іх, трымаючых свой гонар і вартасць, знаходзіцца на першым месцы. Яны ёй вучацца з дзяцінства, а не так, як мы потым у школе, быццам гэтая мова не нашая, а нейкая замежная. Але камусьці гэта карысна і ён так запланаваў — той самы "ўдаў" асіміляцыі і яго памагатыя сярод саміх беларусаў, выконваючыя ганебную ролю барано̆ў — правакатараў, якія вядуць на гістарычную згубу сваіх бязглуздых авечак у расейскі мясакамбінат.

На свяце дажынак у Нясвіжы так прыгожа спявалі на роднай мове нашыя беларускія артысты, але начальства чамусьці гаварыла перад сваім народам па-расейску, аднак называла сябе сапраўднай народнай уладай Беларусі. Якая ж гэта народная ўлада, якая саромеецца беларускай мовы? Няўжо Вам, Іван Андрэевіч, не падабаюцца песні і тая мілагучная мова, на якой яны гучаць? Яна вельмі падабалася Адаму Міцкевічу, які вельмі любіў сваю Радзіму Літву, не Жамойцію, а менавіта Беларусь. Наша мова разам з украінцамі больш роднасная з польскаю, чым з расейскаю па вялікай колькасці агульных слоў, якіх няма ў расейскай мове. І наадварот , у расейскай мове шмат такіх слоў, якія адсутнічаюць у польскай, беларускай і ўкраінскай, бо перанятыя ад татараў. Напрыклад, слоў: "Каханне, ганак, дах, падлога, трэба, фурманка, куфар, волат" няма ў расейскай мове, але ёсць "крыльцо, крыша, пол, надо, телега, сундук, богатырь". Гэта гаворыць аб этнічнай роднасці першых трох народаў і аб тым, што расейская мова сфармавалася пасля іх моў і паходзіць ад царкоўна-славянскай мовы, перанятай Кірылам і Мефодыем ад старабалгарскай. Сучасная расейская нацыя склалася як вынік царкоўна-славянскай асіміляцыі мясцовых угра-фінскіх і татара-мангольскіх народаў. Нездарма на КВН каманда татарскіх судэнтаў "Чатыры татарыны" пажартавала аб тым, што каля паловы слоў у сучаснай расейскай мове пазычана ад татарскай, а расіяне ўтварыліся ад татараў. Хоць гэта і жарт, але ў ім заўсёды прысутнічае значная доля ісціны.

Беларуская нацыя зусім іншая па этнічнаму паходжанню і па той славянскай мове, якая не створаная штучна, як расейская, а дайшла да нас са старажытных часоў ад нашых продкаў. Пагэтаму нельга заўчасна хаваць яе ў труну. Жыве Беларусь!

*Марат Гірко, пенсіянер, г.Менск.*

## Дзень добры!

Паважаная рэдакцыя газеты"Наша слова". Я прачытала ў № 2 99 года, артыкул пра дыскрымінацыю беларускай мовы і хачу расказаць сваю гісторыю.

Мне 12 год, я вучуся ў 26 школе-ліцэі, але паступала я ў школу № 130. У першы клас я пайшла ў "а" клас, там правучылася 2 гады, а пасля летніх канікул пачалі збіраць заявы на якой мове вучыцца. Нажаль за расейскую мову заяў было больш і я з двума аднакласнікамі перайшла ў "в" клас. Але праз год і там пачалі збіраць заявы і зноў выбралі расейскую мову. Што рабіць, прыйшлося ісці ў іншую школу таму што на гэты час "б" і "г" класы пера-шлі на расейскую мову навучання. Вельмі цяжка амаль кожны год знаёміцца і прызвычаівацца да новых дзяцей. Дзіўна што я за свае шэсць год навучання ні разу не бачыла сшыткаў каб на ім было напісана "Сшытак".

Зараз я ў 6 класе маю шмат сяброў і добра вучуся, але першыя тры гады навучання не забуду ніколі.

*Марыя Лось.*

## Менская замалёўка

Пэўна, менчукі настолькі прызвычаіліся да свайго горада, якому надае пэўную пыху званне сталіцы, што з той нагоды яны не заўважаюць зменаў, якія адбываюцца ў іх пад бокам. Госцю сталіцы, чалавеку з правінцыі гэтыя змены колюць вока ды рэжуць слых. І гэта датычыць мене, як беларуса. Надалей я павяду гаворку пра беларускую мову і беларускае слова ў сталіцы. Увогуле, цяжка назіраць, як яно выцясняецца з нашага ўжытку, дзе яно павінна заўжды існаваць ды пад час Адраджэння стала прыпісалася.

Дом літаратара: **"Закрывайте, пожалуйста, дверь".** Бывае такое, спяшаешся, хочацца пабачыць нешта доброе, а цябе, як з-за вугла пад дых. Неспадзяванку цяжка перажыць, як здраду вернага сябра ці каханай жанчыны. Дом літаратара ў маім уяўленні заўжды быў асяродкам беларускасці, нашага роднага слова, нашай векавой культуры і дух там павінен быць беларускі. Скажыце, хто, як не беларускіе паэты ды пісьменнікі, павінны знаць пра гэта. З першага погляду можна сказаць, што гэты дух там не жыве, выйшаў падчыстую. Тое я зразумеў, як толькі пабачыў аб'яву на ўваходзе **"Закрывайте пожалуйста дверь"**.

Мне стала сапраўды да спадобы чытаць напісаны на беларускай мове з памылкамі капітарыс у нейкім заплёваным шынку ці абвесткі ў краме. Ды яно і зразумела: простыя людзі, не ў поўнай меры валодаюць беларускай моваю мкнуцца да таго, каб яна гучала. А вось што датычыць Дома літаратара, то тут, відаць, усе наадварот,нацыянальна свядомая інтэлігенцыя, гонар беларускай літаратуры заплюшчвае вочы,што на іх доме пішуць чужою моваю. Пачалося, відаць, з таго, што моўчкі пракаўтнулі рэферэндум аб дзвюхмоўі. А зараз, шаноўныя літаратары, пакуль яшчэ ветліва просяць: **"Закрывайте, пожалуйста, дверь"**,-- але хутка, калі будзем маўчаць, пачуем: **"Пошли вон, скоты."** Вядома, на "великом и могучем".

*Антон Макей.*

# Вяртанне Яна Булгака на Беларусь

" Фатограф, падобна ўсякаму мастаку, задаецца мэтай ўзнавіць не самі рэчы бачанага свету, а сваё асабістае ўражанне, успрыманне іх, " – так казаў некалі выдатны беларускі майстар фатаграфіі Ян Булгак ( 1876 --1950 гг.). Яго талент, у гэтым жанры, прызнаны Усходняй Еўропай, на роднай зямлі застаецца мала вядомым. А здарма. Творчая спадчына творцы налічвае некалькі соцень твораў. У сваёй творчасці ён закрануў летувіскі, польскі, беларускі край, а таксама паўплываў на развіццё фатаграфіі ў гэтых краінах, чым, безумоўна, і ўвайшоў у гісторыю жанру, як адзін з вядомых беларускіх фотамайстроў.

Дзейная ў лютым – сакавіку 1999 года выстава "Віленская элегія", што знаходзіцца ў Цэнтральнай Публічнай бібліятэцы імя Янкі Купалы, мела на мэце пазнаёміць землякоў Я. Булгака з яго творчасцю, паказаць асобныя яе моманты, стыль і адметнасць яго фатаграфій.

На выставе размешчана невялікая колькасць твораў мастака з агульнай яго спадчыны, але гэтага дастаткова для таго, каб зразумець напрамак творчасці, яе сэнс і ідэю. Творы Я.Булгака, прадстаўлены ў зале вельмі своеасаблівыя і арыгінальныя. Яны ўключаюць у сябе сінтэз, калі можна так сказаць, падабенства фатаграфічнага майстэрства з іншымі творцамі жанру і свайго асабістага, наватарскага. І гэта наватарства заключаецца ва ўменні па свойму ўспрымаць рэчы і з'явы жыцця. Глёдзячы на гэтыя творы, здаецца, што ўсе яны звязаны паміж сабой адзінай ідэяй, думкай фотамайстра і, у той жа момант, маюць сваю асабістую ідэю, сэнс.

Галоўнай мэтай прадстаўленых фотаздымкаў, закладзенай аўтарам, з'яўляецца паказ праз сваё светаўспрыманне роднай зямлі ( яе прыроды, архітэктуры).

Вельмі цікава Я. Булгак падыходзіць да шматразовага адлюстравання аднаго і таго ж краявіду. Так на выставе ёсць аж тры фотаздымкі Катэдры ў Вільні (1930 –я гг.), Вострай брамы ў ёй жа (1931 г.). Аўтар падышоў да адных і тых жа архітэктурных комплексаў з розных бакоў свайго бачання іх. У яго творах яны паўстаюць на асобных фатаграфіях у розным светаўспрымальным святле. І гэта , безумоўна, цікава.

Большасць фотаздымкаў, прадстаўленых на выставе, прысвечана дойлідству Беларусі і Летувы і, асабліва, Вільні – нашай старажытнай сталіцы. На той час, калі тварыў аўтар, гэта зямля была наша – беларуская, таму, можна лічыць, што творы, сабраныя на гэтай выставе, майстар прысвяціў цалкам сваёй Бацькаўшчыне – Беларусі. І яго мэтай было, перш за ўсё паказаць тое, якая цудоўная і слаўная наша зямля.



**Я.Булгак. Вільня. Бакшта.(1930 –ыя гады).**

На выставе больш чым праз паўстагоддзя перад намі паўстаюць яго родная Наваградчына, Вільня, Нясвіж, Гарадзеншчына. І нездарма ён паказаў менавіта гэтыя мясціны. Яны ў яго сімвалізуюць крокі беларускай гісторыі: Навагрудак, як першая сталіца Вялікага Княства Літоўскага, Вільня, як другая, Нясвіж, - як напамін аб некалі магутных беларускіх князях Радзівілах.

Шэраг фотаздымкаў прысвечаны Вільні. Усе яны паказваюць праз аўтарскае ўспрыманне яе прыгажосць і адметнасць. Аўтар паказаў тое, што на яго думку найбольш цікавае і адметнае ў старажытнай беларускай (цяпер летувіскай) сталіцы. Гэта яго творы "Універсітэт у Вільні", "Касцёл бернардынцаў", "Віленскія краявіды", "Святадухаўскі кляштар" і інш. Усе яны нясуць у сабе святло аўтарскага бачання іх.

Цікава паўстае перад намі Гарадзеншчына ("Замак над Неманам"), Нясвіж ("Канал замка ў Нясвіжы"), Баранавічы, возера Дрысвяты, возера Глыбокае са сваімі адметнасцямі, выдатна заўважанымі майстрам.

Цікава, што аўтар вельмі арыгінальна паказвае ў сваёй творчасці тое, што бачыць. Так у Нясвіжы ёсць цудоўны магнацкі замак. І ён убачыў у гэтай архітэктурнай структуры здаецца тое, на што мала звяртаюць увагу, на замкавы канал. І сапраўды, чаму б яму было не паказаць на гэтым фотаздымку сам замак? Але замест яго ён адлюстраваў, убачыў менавіта канал ля замка. Ужо ў гэтым, бачым, існуе нейкая своеасаблівая адметнасць яго творчасці – ён бачыць усё з свайго боку гледжання, заўважае тое, на што менш звяртаюць увагу.

Экспазіцыя цікавая хаця бы ужо па тым, што фотаздымкі адлюстроўваюць цікавую і арыгінальную архітэктуру. І, увогуле, нясе ў сабе карысную інфармацыю, бо сапраўды цікава і хвалююча зрокава дакрануцца да гісторыі.

Так, менавіта да гісторыі, бо творчасць Я. Булгака – гэта ўжо гісторыя, а яго спадчына назаўсёды застанецца яе неад'емнай часткай.

***Карэцкі А.***
***Студэнт. 205 група***
***Беларускага ун-та***
***Культуры***

# Заява

## Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны

У нашай краіне з 16 па 23 лютага г.г. праведзены перапіс насельніцтва. Ужо ў час падрыхтоўкі да яго дзяржаўнымі чыноўнікамі былі дапушчаны парушэнні правоў грамадзян Рэспублікі Беларусь. Перапісныя лісты Міністэрствам статыстыкі і аналізу былі падрыхтаваны толькі на рускай мове. Уся наглядная агітацыя па перапісу афармлялася толькі па-руску. Некаторыя пытанні, унесеныя ў перапісныя лісты, мелі характар умяшання ў асабістае жыццё і былі некарэктнымі. Пад ціскам грамадскасці найбольш відавочныя недарэчнасці былі выпраўлены, але ход перапісу пацвердзіў і недастатковую падрыхтаванасць да яго, і ідэалагізаваную скіраванасць гэтага мерапрыемства.

У дні перапісу ў Таварыства беларускай мовы паступіла больш за 60 тэлефонных званкоў і пісьмовых заяў з Мінска, Віцебска, Брэста, Гомеля, Гродна, Барысава, Маладзечна, Смаргоні, Талачына, Крупак, Карэлічаў, Жлобінскага, Пінскага, Чэрвеньскага і іншых раёнаў з абуральнымі фактамі грубага парушэння працэдуры перапісу. Вельмі часта ў перапісчыкаў не было бланкаў на беларускай мове, а самі яны не валодалі дзяржаўнай беларускай мовай. Нярэдка перапісныя лісты запаўняліся загадзя, а ў рэспандэнтаў браліся толькі пашпартныя дадзеныя. Пытанні аб роднай мове і мове бытавога ўжытку наогул не задаваліся. Правільнасць запісаў з людзьмі не ўдакладнялася і не ўзгаднялася. Былі выпадкі, калі перапісныя лісты запаўняліся са слоў суседзяў або непаўналетніх членаў сям'і. Відавочнай была скіраванасць многіх перапісчыкаў на вызначэнне ў якасці роднай мовы і мовы штодзённага ўжытку рускай мовы. Агітацыяй на карысць такога варыянту запісу займаліся кіраўнікі некаторых калектываў і вайсковыя камандзіры. Шмат грамадзян наогул не прайшлі перапісу.

Разумеючы, што зафіксаваныя актывістамі ТБМ факты - гэта толькі нязначная частка грубых парушэнняў правоў грамадзян і законаў Рэспублікі, мы ўжо сёння маем усе падставы сумнявацца ў аб'ектыўнасці і дакладнасці праведзенага перапісу і лічыць яго яшчэ адной спланаванай высокімі чыноўнікамі акцыяй, скіраванай на барацьбу з роднай беларускай мовай і суверэнітэтам Бацькаўшчыны.

***Прынята 26 сакавіка 1999 года***
***на паседжанні Рэспубліканскай Рады ТБМ***

*(Матэрыялы пра перапіс насельніцтва Рэспублікі Беларусь чытайце на стар. 4)*

# Вольнаму гораду Менску – 500 год

19 саквіка ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры была ўрачыста адкрыта выстава прымеркаваная да 500-годдзя атрымання нашай сталіцай Магдэбургскага права. Шырокае фае музея не магло ўвабраць у сябе ўсіх жадаючых навукоўцаў, пісьменнікаў, мастакоў, выкладчыкаў ВНУ і студэнтаў, музеязнаўцаў і архівістаў.

На выставе былі і афіцыйныя асобы: міністр культуры сп. Сасноўскі і намеснік старшыні гарвыканкама. Відаць іх прысутнасць і перашкодзіла пры адкрыцці выставы атрымаць слова для прывітання прысутных вельмі паважаным на Беларусі людзям: народнаму паэту Нілу Гілевічу і вядомаму мастаку Уладзіміру Стальмашонку. Гэта яскравы прыклад вяртання ў часы таталітарызму і цэнзуры.

Аднак сама выстава вельмі ўражвае прысутных. Падрабязна пра яе змест і канцэпцыю стварэння, можна даведацца з рэкламнага буклета, які было магчыма атрымаць на прэзентацыі. Мы прапануем чытачам "Нашага слова" яго змест і заклікаем наведаць у гэтыя дні Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі.

***Алег Трусаў, кандыдат гістарычных навук.***

# МЕНСК, ГОРАД ВОЛЬНЫ"

## Выстава да 500-годдзя атрымання Менскам Майдэборгскага (Магдэбургскага) права

**У 1999 г. спаўняецца 500 год з часу надання Менску статуса вольнага горада – Майдэборскага альбо Магдэбургскага права. Гэтая дата варта ўсялякага ўшанавання.**

**У XIII ст. нямецкі кароль аказаў давер жыхарам некалькіх гарадоў, даўшы ім прывілей свабодна, у межах закону, выбіраць сродкі для забяспячэння ўласнага дабрабыту, арганізоўваць** свой грамадска-эканамічны лад жыцця. Найбольш поўна скарысталі з гэтага прывілея жыхары горада Магдэбурга. Іх досвед стаў распаўсюджвацца па Еўропе, а сістэма прывілеяў атрымала назву "Майдэборскае права". Такая сістэма развівала пачуццё індывідуальнай адказнасці за справу, стымулявала ініцыятыву, выпрацоўвала павагу да закону, ставіла дабрабыт дзяржавы ў залежнасць ад дабрабыту асобы.



**Герб Магдэбурга**

Гарады з Майдэборгскім правам былі ні чым іншым, як "свабоднымі эканамічнымі зонамі" у сучасным сэнсе гэтага паняцця, гарадамі з самакіраваннем. Росквіт такіх гарадоў у сярэдневеччы забяспечвалі гандаль і рамёствы, арганізаваныя ў цэхі.

Менск атрымаў свой шанц 14 (21) сакавіка 1499 г., узяўшы прывілей на Майдэборскае права ад Вялікага князя Аляксандра. На жаль, прывілеі Менска былі не такімі шырокімі, як у вольных гарадах заходніх краін. На пачатку XYI ст. нават існавала рэальная пагроза скасавання ў Менску гэтых прывілеяў. Шляхта і магнаты не жадалі выпускаць людзей з-пад сваёй улады. Ад менчанаў тых часоў патрабавалася асаблівая мужнасць, настойлівасць, розум, прадпрымальнасць, імкненне да свабоды, каб адстаяць і сябе, і горад, і сваё месца ў грамадстве. Менчане баранілі сваю "плошчу свабоды" на працягу некалькіх стагоддзяў…

Наша выстава ўшаноўвае і саму дату 500-годдзе статуса вольнага горада, і аддае даніну павагі гараджанам за іх лепшыя якасці, іх імкненне да свабоды.

Задача выставы – прыцягнуць увагу да падзеі, да праблемы гарадскога самакіравання, даць імпульс да развагаў. Апроч таго мы хочам нагадаць і аб канкрэтных гістарычных рэаліях, такіх як магістрат, ратуша, гарадскі герб, цэхі, прывілеі …

Стваральнікі выставы свядома карыстаюцца арфаграфіяй першакрыніцы, прывілея 1499 г., называючы права "Майдэборскім", бо такі правапіс больш адпавядае фанетычнаму ладу беларускае мовы.

Наша выстава не ілюстрацыя, а вобраз. Ключавыя сюжэты і паняцці пададзены праз знакавыя прадметна-вобразныя кампазіцыі --інсталяцыі, кожная з якіх падрабязна патлумачана.

Галоўны дакумент у кантэксце падзеі, якую адзначаем, - прывілей 1499 г. Менску на Майдэборскае права – не захаваўся, згарэў у часе пажару ў сярэдзіне XYI ст. Па апісаннях ён уяўляў сабой вялікі аркуш пергаменту з рукапісным тэкстам, прыгожа арнаментаваны, з прывісістай гербавай пячаткай, з подпісамі Аляксандра і пісара канцылярыі. Але захаваўся канфірмацыйны (пацвярджальны) прывілей XYIII ст. Цяпер ён знаходзіцца ў Вільні. Захаваўся таксама запіс прывілея ў Метрыцы Вялікага Княства Літоўскага – зборы дакументаў XYI – XYIII ст.ст. Гэтая каштоўнасць знаходзіцца ў Маскве.

Тым не менш, шаноўны наведвальнік мае ўнікальную магчымасць убачыць аўтэнтычныя дакументы, найперш – актавыя кнігі Менскага магістрата, якія ўтрымліваюць запісы ад XYII ст. Цікава знаходзіць у іх знаёмыя назвы вуліц і прозвішчы людзей.

Прадстаўлены вельмі каштоўны кніжны збор з рарытэтнымі выданнямі, сярод якіх – "Правы Саксонскія і Майдэборскія" Паўла Шчэрбіча, польскага юрыста XYI ст. У кнігазборы – працы польскіх, беларускіх, літувіскіх, расейскіх аўтараў па праблемах Майдэборскага права.

Выдатныя творы жывапісу і графікі, паштоўкі і фотаздымкі з фондаў музеяў ў большасці сваёй ўпершыню прадстаўлены на агляд.



**Герб Менска**

Разам з Нацыянальным музеям гісторыі і культуры Беларусі (НМГ і КБ) у выставе бяруць удзел Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі (НГАБ) і Нацыянальная бібліятэка Беларусі (НББ).

Выстава арганізавана пры садзеянні Менгарвыканкама, Рэспубліканскага Фонду падтрымкі дэмакратычных рэформ імя Льва Сапегі, Нацыянальнага музея Летувы.

Спадзяёмся, што наша выстава не толькі пашырыць веды, але дасць нагоду для эстэтычных перажыванняў.

***І. ЗВАРЫКА, аўтар канцэпцыі***
***Г. ЧЫСТЫ, мастак***
***А. ЦІТОЎ, навуковы дарадца***



№ 14(399) 7 КРАСАВІКА 1999 г. Наша слова

Вяртаючыся да перапісу

# Званок у ТБМ

Не ведаю чаму, а сёлетні перапіс яшчэ да ягонага пачатку насцярожваў, трывожыў. Недавер да яго пачаўся з пытання ў перапісным лісце: "На якой мове вы размаўляеце дома?" Чаму толькі дома? А на працы, а на вуліцы, а ў школе?

За гэтым пытаннем паўстае цэлая гама іншых пытанняў: " А чаму гэта анкетчыкаў не цікавіць, на якой мове я малюся, кажу пацеры? На якой мове чытаю? Спяваю? Думаю? А можа я зусім маўчун з прыроды? Ці глуханямы, ці належу да секты маўчуноў?" Ёсць такая секта на Беларусі: пяць дзён яны маўчаць, толькі ў суботу ды нядзельку дазваляюць сабе перакінуцца словам. Паміж іншым, і правільна робяць. Лішняя гамана паслабляе чалавека, расхіствае яго нервовую сістэму. Добра яшчэ, калі гэта гамана лагодная, спагадная, а калі крыклівая, надрыўная, істэрычная, як гэта нярэдка бывае у нашай краіне?!

Адным словам, анкетчыкі перапісу замест простага і зразумелага пытання: "Ваша родная мова?" напачатку наважыліся паставіць адно і больш хітрае: "На якой мове вы размаўляеце дома?"

Дзеля чаго такое пытанне? Вядома, каб атрымаць якуюсь выгодную інфармацыю для сваіх пражэктаў - скажам шчыра, нялюдскіх і неславянскіх. Адмова ад пытання : "Ваша родная мова" насцярожыла грамадскасць, спарадзіла недавер да перапісу і яго мэты. А тут яшчэ і перапісныя бланкі выдрукавалі напачатку толькі па-расейску. То які можа быць давер да такога перапісу? І ўсё гэта не драбнічкі. Усе гэта, між іншым, азначае, што ўсе нашы прозвішчы, імёны, геаграфічныя назвы і іншыя звесткі запішуць у расійскай графіцы, расійскай транскрыпцыі. Скажам, прозвішча Сахута, калі гаспадар не прасочыць, запішуць як Сахуто і вёску Рагава запішуць як Рогово... І гэтак далей, і гэтак далей...

Падкінуў недаверу да перапісу і Аляксандр Лукашэнка, які загадзя падказаў, якая павінна быць раскладка перапісу і яго вынікі. А раскладка такая: паводле падлікаў прэзідэнта, на Беларусі жыве каля сарака ці мо трошкі больш за сорак працэнтаў беларусаў.

Мне падумалася, што гэта ў мяне аднаго такая трывога. Але ж не! Бачу, гэта турбуе і аднаго, і другога, і трэцяга...

І вось пачаўся перапіс...

Таварыства беларускай мовы , маючы таксама недавер да сапраўднай мэты задуманага перапісу, звярнулася ў шэраг газет з просьбаю да чытачоў, калі будуць якія непаразуменні пры перапісе, каб тыя тэлефанавалі, паведамлялі пра гэта ў Таварыства. І трэба сказаць, у дні перапісу тэбээмаўскі тэлефон не маўчаў.

Адна з першых патэлефанавала жыхарка Мінска Тацяна Гурэцкая (Заслаўская 11, кор.1, кв.30): "Прыходзілі тут да мяне перапісчыкі, - паведамляла яна, - я папрасіла, каб маю сям'ю перапісалі на беларускіх апытальных лістах і па-беларуску. Аднак такіх бланкаў у іх не было. Парадзіла: "Тады прыходзьце іншым разам". "Прыйдзем! - адказалі перапісчыкі. - Але ўжо з міліцыяй!" "Мяне гэта вельмі абурыла!- распавядала далей Тацяна Іванаўна. - Сама я руская. Але мне шчыміць душа за такія адносіны да беларускай мовы на Беларусі. Гэта да дабра не прывядзе!"

Праз некаторы час я пацікавіўся, ці не прыходзілі паўторна да спадарыні Тацяны Гурэцкай перапісчыкі. "Не, не прыходзілі, - адказала яна. - І не трэба. Цяпер грып лютуе... Я сама схаджу на перапісны пункт і ўсё аформлю як мае быць!"

Такія ж непаразуменні былі з перапісчыкамі і ў сп.Шкрэдкавай Я.Р., таксама з Мінска (2-гі завулак Розы Люксембург д.5 кв.9). "Заляцеў, як віхор. Сеў, напісаў. "Што вы там напісалі ? - пацікавілася гаспадыня. - Дайце паглядзець!" Не дае! Не хацеў даваць. Я вырвала ў яго з рук. Я ведаю некалькі моў. Пра гэта нічога не напісаў..." Такое, паводле слоў сп. Шкрэдкавай, калі перапісчыкі не давалі пагглядзець, што напісалі , было і ў суседа Рэвуцкага Генадзя Васілевіча ў кв.12. І на Янкі Маўра ў Шостак Ірыны Мікалаеўны (д.52 кв.9). Пра тое, што перапісчыкі не здолелі задаволіць просьбу людзей, каб іх перапісвалі на беларускамоўных апытальных лістах, паведамлялі шмат хто: Галіна Антонаўна Адуцкевіч з Мінска (Скарыны 151 кв. 60), Міхаіл Вікенцевіч Басевіч з вёскі Заполле Пінскага раёна,Лявон Цімошкін з Маладзечна (6-30-05), Іван Рыгоравіч Гайсёнак, Анатоль Рыгоравіч Лазовік, Ніна Бязручкіна, Надзея Дмітрычэнка, Аляксандра Сяньчук. Не хапіла ў перапісчыкаў беларускамоўных лістоў, каб перапісаць сям'ю дырэктара музея Янкі Купалы Жаны Дапкюнас:" Дваіх з нас перапісалі па-беларуску, а на трэцяга беларускамоўнай анкеты ўжо не хапіла", - паведаміла ўнучка Янкі Купалы.Шмат хто з-за патрабавання беларускамоўных апытальных лістоў так і застаўся неперапісаным. Не ўсе перапісчыкі, як высветлілася, былі здатныя афармляць па-беларуску беларускамоўныя апытальнікі. Вось, прыкладам, што расказала жыхарка Мінска Алеся Кісель. "Нас перапісваў малады чалавек. Перапісаў Дзіму, мужа майго. Я падышла і папрасіла, каб мяне перапісаў на беларускамоўным бланку і па-беларуску. Ніякіх пярэчанняў не было. Пачаў перапісваць, аж бачу: цяжка яму з беларускаю моваю. Я пачала памагаць. Так-сяк перапісаў. .." (К. Каліноўскага, 82 к.2 кв.55). А вось які момант давялося перажыць пад час перапісу жыхару Смаргоні (вул.Юбілейная, д.9 кв.20) Аляксандру Дзергачову: "16.02.99 а 19-й гадзіне да мяне ў кватэру завітала жанчына, якая, паводле яе слоў, займаецца перапісам насельніцтва ў дамах №№ 5 і 9 па вул. Юбілейнай. Я спытаў, ці ёсць у яе перапісныя лісты на беларускай мове. Яна адказала, што не мае, бо ёй не далі. Пасля я папрасіў запоўніць рускамоўны перапісны ліст на беларускай мове. На гэта яна заявіла, што пісаць на беларускай мове не ўмее, бо прыехала з Расіі. У такіх варунках я адмовіўся адказваць на пытанні перапіснай анкеты на рускай мове. Мяне ўразіла. што перапіс насельніцтва давяраецца асобам, якія не ведаюць дзяржаўнай мовы. Прашу дадзеную інфармацыю прыняць да ведама. А.Дзергачоў 17.02.99г." Гэтак жа "перапісвалі" і Генадзя Самойленку з Брэста з мікрараёна Вулька (пра гэта ўжо пісала "Наша слова")

Цікавы факт паведаміў Таварыству беларускай мовы і Васіль Прадун з Іванава, колішняга нашага Янава (вул.Савецкая,77 кв.33) пра тое, як перапісвалі ягоную матулю,якая жыве ў вёсцы Упірава на той жа Іванаўшчыне. "Маме 73 гады. Была хворая, зваліў грып. Перапісваць яе прыйшла Бартош Валянціна Канстанцінаўна. Дык вось, перапісчыца запісала родную мову маме рускую. А мама ж ніколі не ўмела па-руску гаварыць. Яна праз усё жыццё гаворыць на заходнепалескай гаворцы. Крыўда! Наша дачка вучыцца на беларускай факультэце... На пытанне да перапісчыцы, чаму так зрабіла, тая адказала:"Нам сказалі так перапісваць!.."

Даволі часта перапісчыкі , не пытаючыся, запісвалі апытантам самі родную мову рускую. Калі хто гэта заўважаў і пытаўся, чаму так зрабілі, тыя адказвалі:" А вы ж з намі па-руску размаўляеце..." На што гаспадары ветліва адказвалі:"Вы з намі пачынаеце гаварыць па-руску, то мы, як людзі ветлівыя, адказваем гэтак жа. А вось вы загаварыце з намі па-беларуску?" Да такога павароту размовы шмат хто быў непадрыхтаваны. Зададзенасць моўнага перапісу ў кірунку рускай мовы была відавочная. Вось, прыкладам, што паведаміў 22 лютага Ігар Стралец з Барысава (вул.Будаўнікоў 43 кв.185): "А ў мяне пра мову нічога не пыталіся. Спыталіся толькі нацыянальнасць, і я не ведаю, якую мне родную мову запісалі". На пытанне, чаму не пацікавіўся пра гэта, як перапісвалі, адказаў: "А тады я пра гэта не падумаў. А вось прачытаў абвесткі ў газеце і задумаўся. Што рабіць?" З гэтым пытаннем у Таварыства беларускай мовы звярталіся шмат хто. Адным мы раілі схадзіць на перпісныя пункты і пераправерыць свае апытальныя лісты. Раіць то раілі. Але не вельмі ўпэўненыя, ці рэальныая такая парада, ці можна яе здзейсніць практычна. Найбольш пашыраныя пытанні ў Таварыства былі:

1. Ці трэба падпісваць апытальныя лісты? Калі не, то чаму?

2. Чаму перапісчыкі не заўсёды дазвалялі правяраць апытальны ліст?

3.Ці абавязкова перапісчык павінен апытаць кожнага грамадзяніна, ці гэта можа нехта зрабіць адзін у сям'і за ўсіх?

Прыкладам, паводле слоў Эдуарда Баланчука з Маладэчна (3-92-59) ягоную сям'ю перапісвалі без ягонай прысутнасці. Звесткі пра сям'ю давала нянька, якую пакінулі даглядаць дзяцей...

Цікавае было пытанне і пра тое, якую родную мову запісваць дзецям, якія яшчэ не навучыліся гаварыць. І напраўду, якую мову ім запісалі? Хіба - дзіцячую! Жарт жартам, а пытанне сур'ёзнае.

Быў у ТБМ і такі званок з Ліды ад Тамары Клімовіч, што ў яе сям'і перапісчык апытальныя лісты афармляў алоўкам: "Калі я пацікавілася, - расказвала па тэлефоне Тамара Уладзіміраўна, - чаму алоўкам?" - перапісчык адказаў: "Калі я напішу ручкай, нічога не змагу папраавіць..." "А што ж там папраўляць, калі са мною ўсё ўзгоднена!.." Чарговы перапіс насельніцтва на Беларусі, як ніколі раней, праходзіў ва ўмовах д'ябальскага прэсінгу, напружанасці і пэўнай зададзенасці. Гэта адчула беларускае грамадства. І пра гэта быў не адзін званок у ТБМ.

Ніна Бязручкіна (Мінск, вул.Андрэеўская, 5 к.2 кв. 28) :" Мы ўсе перажываем за гэты перапіс. Пачуццё непрыемнае. Неспакойна! Трывожна! Прыйшоў перапісчык, перапісаў, але не дае паглядзець... Добра, я праявіла настойлівасць: праверыла! Але ж не кожны мае на гэта сілу волі!.. Колькі падпісных лістоў складзена так, як гэтага захацелася перапісчыкам!.. Да такога перапісу вялікі недавер!" Так, недавер ёсць... Ён большы нават, чым за савецкім часам.Тады таксама была пэўная тэндэнцыйнасць, але больш-менш умераная, з агляддкам на Захад, каб часам не перабраць. Цяпер жа ніхто і нікога не баіцца. Ніхто і ні на кога не аглядваецца. Перапіс 1999 года - гэта перапіс напралом, пад свае пражэкты. Хацелася б памыліцца. Толькі наўрад ці гэта памылка!

... Сем дзён не змаўкаў тэбээмаўскі тэлефон. Сем дзён жыхары з усёй Беларусі паведамлялі, што перапісчыкі, а з імі і ўлада, парушаюць іхнія канстытуцыйныя правы: не забяспечваюць нацыянальнымі апытальнымі бланкамі, часта не пытаючыся, роднай мовай запісвалі рускую... Паведамленні гэтыя працягваліся і пасля заканчэння перапісу. Так, 25 лютага Тацяна Зубовіч з Мінска (Адаеўская 96 к.1 кв.20) паведаміла, што калі прыходзіў перапісчык, дома быў адзін сын. Той папрасіў прыйсці, калі збяруцца ўсе. Аднак мінулі перапісныя дні, але да іх больш так ніхто і не прыйшоў. А з вёскі Кароткавічы Жлобінскага раёна паведамілі, што там наогул не праводзіўся перапіс. Цяжка паверыць. Але ж, дыму без агню не бывае. Вядома, гэты званок трэба праверыць, але і не зарэгістраваць яго мы не маглі. Інфарматар назваў сябе Іванам і пакінуў да ведама нумар тэлефона.

Больш за паўсотню самых розных паведамленняў з розных куточкаў Беларусі прыляцела ў ТБМ. І ўсе яны пякучыя, горкія , як і гэты ліст з Каралёвага Стану Мінскага раёна ад Ірыны Мэты: "Зранку 16 лютага прыйшла да нас лічыльніца праводзіць перапіс. Адразу пачала запаўняць лісткі адказаў, надрукаваныя на рускай мове. На маё запатрабаванне змяніць бланкі на беларускамоўныя, паглядзела на мяне з непаразуменнем і адказала, што іх увогуле няма. Тут прыйшла мая чарга здзівіцца і перапытаць яе нават, бо пісалі ж у газетах, што бланкі падрыхтаваны на дзвюх мовах. Гэты факт пацвердзіў тое, што было ўжо даўно вядома: на Беларусі існуе на практыцы самае сапраўднае аднамоўе; беларуская мова мае самую мінімальную сферу ўжывання, яе аўтарытэт катастрафічна нізкі, у грамадстве лічыцца больш важным і прэстыжным ведаць англійскую і нямецкую мову, чым беларускую. Так беларуская мова стала падчаркай на роднай зямлі. "

Падчаркай яна была і на перапісе. Мала хто з перапісчыкаў карыстаўся роднаю моваю, а мо, за рэдкім выключэннем, і ніхто. І ўся візуальная атрыбутыка перапісу: рэклама, пасведчанні перапісчыкаў, нагрудныя біркі, розныя іншыя абвесткі - былі не на нашай роднай мове. Хіба гэта ўсё не сведчыць пра тэндэнцыйнасць перапісу?

Сумна, вельмі сумна пра гэта і пісаць і гаварыць. Але трэба! Трэба, каб не раз'ядала нашы душы ржа самаедства, каб не знік з планеты Зямля адзін з самых старажытных славянскіх народаў - беларускі. А гэтага якраз дамагаецца цяперашні рэжым на Беларусі. А вось для чаго? - гэта нармальнаму розуму непадуладна.

... Ужо скончыўся сакавік, а тэлефонныя паведамленні ў ТБМ пра самыя розныя нюансы перапісу працягваюць паступаць. Так, прыкладам, першага сакавіка патэлефанаваў Кірыла Рутовіч, навучэнец Рэспубліканскай школы мастацтваў. Ён расказаў, што ў яго сям'і перапіс ішоў на розных мовах: "Я адказваў на пытанні перапісчыкаў па-беларуску, а яны перакладалі мае адказы на рускую мову, але не заўсёды з гэтым спраўляліся, і ўсё ў мяне пыталіся: чэрвень - гэта які месяц?... Ліпень? Как это по-русски? " Я прапанаваў Кірылу пра тое, як яго перапісвалі, расказаць лістоўна на паперы. І ён ахвотна на гэта пагадзіўся... І добра зрабіў. Бо папера - гэта грунт, гэта дакумент, і ніхто-ніхто яго не адважыцца аспрэчыць. Думаецца, нам усім цяпер варта пасля тэлефонных званкоў пра тое, як нас перапісвалі, расказаць на паперы. Гэта патрэбна нашай гісторыі, нашай будучыні. То за ручкі, сябры! І не ленуймася!

***Уладзімір Содаль.***
***г. Менск.***

## Добры дзень, шаноўнае "Наша слова"!

Хачу распавесці, як правялі перапіс нашай сям'ў. Перапісчык прыйшоў да нас у час рабочага дня, калі дарослыя былі на рабоце. Гаворку з дзецьмі пачалі па-расейску. Анкета таксама была расейскамоўная. Такім чынам, уся інфармацыя была запісана са слоў майго 12 гадовага сына, а калі ён нешта не ведаў, перапісчык пісаў нешта сваё. Усе моўныя пытанні былі перапісчыкам адназначна вырашаны ў бок расейскай мовы. Але мой муж беларус і яго родная мова – беларуская. Я хоць і не беларуска, але таксама лічу сваёй роднай мовай беларускую. Хіба можна так не сур'ёзна праводзіць важнае мерапрыемства, як перапіс. Са слоў сваіх знаёмых ведаю, што беларускамоўныя анкеты нікому не прапаноўваліся, а адразу навязваліся расейскія. Таму асабіста я не буду давяраць вынікам такога перапісу. Відавочна, што ён праводзіўся з палітычнымі мэтамі пры поўным парушэнні ўсіх дэмакратычных нормаў.

***Алена Гуркова, Менск.***

## Паважаная рэдакцыя газеты "Наша слова"

Хачу расказаць Вам, як перапісвалі мяне і маю дачку якая жыве асобна. Да мяне перапісчыкі прыходзілі двойчы, у першы раз не было бланкаў на беларускай мове, якіх быццам ім ніхто не даваў. Другі раз блакі з'явіліся.

А вось да дачкі прыходзілі двойчы без бланкаў на беларускай мове і двойчы яна адсылала па іх. Больш яны да яе не з'явіліся. На тэлефонны званок у выканкам горада Жодзіна, адказны чалавек сказаў, што абавязкова прыдуць. Дамовіліся пра час, але ніхто не прыйшоў.

Так і засталіся не перапісаныя мая дачка і унучка. Іх няма, і праблемы няма.

***Алесь Каранёў,***
***г. Жодзіна.***

...Не так даўно мы былі сведкамі, як нас беларусаў перапісвалі на расейскі капыл.

Маю на ўвазе перапіс насельніцтва па расейскіх апытальных лістах, дзе былі выкручастыя пытанні., сэнс якіх зводзіўся прызнаць расейскую мову, як родную. Тым самым прымусіць нас беларусаў прызнаць, што нас нібыта няма, тым самым вырачыся беларускасці, быць людзьмі без "душы", зрабіцца статкам, якога можна гнаць і пугай. Няма беларусаў - няма і праблемы.

А вось цяпер ідзе кампанія выбараў у мясцовыя саветы.

На слупах "вісяць кандыдаты ў дэпутаты". З амаль 10-ці плакатаў адзін толькі надрукаваны па-беларуску(але і той былы вайсковец), астатнія кіраўнічыя асобы, вайскоўцы і, нават, міліцыянт.

І вось прышлі запрашэнні на выбары. Але і тут улады імкнуцца беларуса запрасіць па-расейску. І гэта робіцца ў дзяржаве, дзе ў тытульнай назве ёсць слова Беларусь.

Хіба гэта не віток русіфікацыі?

***В. Барболін, сябра рады ТБМ, г. Берасце.***

# “Воды многи не могли суть угасити любви...”,

## альбо нататкі пра каханне у Вялікім Княстве Літоўскім

*Жанчынам колішняга ВКЛ і спн. Іне Лазько — ахвярую*

Спаміж разнаітых тэмаў, што абміналіся ўвагай у беларускай гістарыяграфіі ёсць тэма кахання, як сексу (сексуальных паводзін, свядомасці і г.д.) у гісторыі Беларусі. Секс жа ёсць неадоймнаю часткай чалавечага бытнавання ўва ўсе пэрыяды развіцця чалавецтва. Секс стаецца важнейшым чыннікам, які значна ўплывае на адметнасці характару і паводзін асобы. Нездарма знаны псіхолаг Зыгмунт Фройд зрабіў гэты панятак кутнім каменем сваёй тэорыі неўсвядомленага. Відавочна, што гістарычныя даследзіны па дадзенай тэме могуць даць у перспектыве добры плён. Пакуль жа, беручыся за распрацоўку тэмы, трымаўся мэты давесці мажлівасць падобных даследзін на беларускім матэр'яле, свядома абраўшы часы Вялікага Княства Літоўскага.

З даўніх часоў суседзі будучага ВКЛ праўдзіва — непраўдзіва падкрэслівалі сексуальную актыўнасць нашых продкаў, якія “чужых жанок умыкалі” дый наогул былі “дужа да юрлівасці схільнымі”. Не гледзячы на пранікненне хрысціянства сексуальная свядомасць першых ліцьвінскіх князёў заставалася спрэс паганскай. Многія з іх працягвалі традыцыю “ўмыкання жанок”. Князь Міндоўг (1195? -1263), не зважаючы на свае ці не 70 гадоў, пасля смерці жонкі падманам забавіў ейную сястру і пабраўся з ёй. Князь Кейстут (1300?-1382) узяў сабе за жонку прыгажуню паганку Біруту. Дарма, што яна жыла на берагах Балтыйскага мора, “багам сваім... паабяцала дзявоцтва захоўваць, і саму яе людзі лічылі за багіню”.

Сын Кейстута і Біруты вялікі князь Вітаўт (1350?-1430) быў знаны не толькі, як выдатны палітычны дзеяч, але і як вельмі шчадралюбны мужчына. Захаваліся звесткі аб тым, што ён няраз у часе вайсковых паходаў пакідаў войска, каб спатоліць прагу жаночае ласкі ў абдоймах жонкі ці чарговай каханкі. Гэта не замінала яму лічыцца хрысціянінам, хаця свядомасць, як і ў папярэднікаў, была ў яго паганскай. Сваю другую жонку, Ганну Смаленскую, мяркуючы па ўсім, кахаў непамысна дужа. Яна таксама ступала за ім у кожнай радасці і нягодзе. Нават у знакамітым крэўскім палоне (1382) яна была з мужам, і каханкі, відаць, не марнавалі часу. “Князь вялікі Вітаўт сядзеў у Крэве пад моцнаю вартай, а дзве жанчыны прыходзілі ў пакой класці спаць яго і княгіню”, — не без падтэксту паведамляе “Хроніка Быхаўца”. Ці не пасля адной з такіх начэй узнік план Вітаўта-вых уцёкаў. Зацятая і напружаная палітычная барацьба, а таксама забойства крыжакамі двух малых сыноў (1392) відавочна значна паўплывалі на псіхалагічны, а можа быць і на фізіялагічны стан Вітаўта. Так ці інакш, але ён памёр не пакінуўшы па сабе спадкаемца, не гледзячы на трэці шлюб.

Вітаўтаў стрыечнік, а цягам доўгага часу і палітычны супернік, князь Ягайла (1348?-1434) меў, на маю думку, ладныя сексуальныя комплексы, якія і спараджалі пастойную патрэбу гучна даказваць нешта іншым. То сваё першынство ў Вялікім Княстве перад братамі, то “наяўнасць і будову асобных частак (свайго) цела” ў лазні перад пасланнікамі польскай каралеўны Ядвігі, да якой ён меўся сватацца. Тое ж імкненне да інтэграцыі з Польшчай мажліва было трансфармаванай праявай тых сексуальных комплексаў Ягайлы. Зрэшты я магу і памыляцца, але насцярожвае яшчэ адзін факт. Будучы чатыры разы жанаты, у Ягайлы толькі з чацвёртай жонкай (Соф'яй Гальшанскай) з'явіліся дзеці, калі яму самому было ўжо блізу 80-ці гадоў. Не дарма вялікі князь Вітаўт выказаў сумніў, што тыя дзеці былі законнымі.

Цягам ХУ ст. хрысціянская царква ў ВКЛ значна ўзмацніла свой уплыў на грамадзянскую свядомасць. Тычылася гэта і сферы маральных узвычленняў. Але прапагандаваная хрысціянствам аскетычнасць і стрыманасць сексуальных паводзінаў у сямейным жыцці і рэлігійная забароненасць пабочных палавых стасункаў датрымліваліся ў ВКЛ, як і ў Заходняй Еўропе не заўсёды. Гэтаму спрыяла з аднаго боку кансервацыя рэштак паганскай свядомасці, з другога — пэўны ўплыў еўрапейскіх гуманістычных поглядаў на чалавека і чалавечае жыццё. У кожным разе секс не мог заставацца паза ўвагай. Як вядома, нават у “Бібліі” ёсць дастаткова многа сюжэтаў звязаных з сексам. У 1517-1519 г.г. выдатны беларускі гуманіст і асветнік Францішак Скарына надрукаваў вялікую частку біблейскіх тэкстаў у перакладзе на старабеларускую мову. Між іх была і “Песнь песням” — шэдэўр старажытнай эратычнай лірыкі, паэма аб каханні караля Саламона і смуглявай красуні Суламіфі. “Се ты коль красна есь, приятелко моя... Яко завивание червеное уста твоя, и молвение твое сладко... Две перси твое, яко два младых козелца — близнеци серны... Вся красна есь, приятелко моя, и посквернения несть на тобе...” “Воды многи не могли суть угасити любови, иниже реки затопять ея”. Эратычны пафас яскрава выяўляецца ў гэтых радках. Адылі ў прадмове да “Песни песням” Ф.Скарына нібыта не заўважае гэтага пафасу, азіраючыся, відаць, на мажлівыя ганенні з боку царквы. Наогул Ф. Скарына быў прыхільнікам святасці і непахільнасці сям'і, здаровых сямейных дачыненняў. У часы фактычнага панавання ў еўрапейскіх дзяржавах “ цывілізацыі мужчын” (вызначэнне А.Гурэвіча), калі жанчына лічылася “патоўпішчам граху”, наш выбітны асветнік бачыў у жанчыне найперш чалавека з сваімі моцнымі і слабымі рысамі характару.

У ХУІ ст. у Польшчу, а заразам і ў Вялікае Княства трапляюць у переказах і цытаваннях асобныя навэлы з знакамітага “Дэкамэрона” слыннага італійскага гуманіста Дж. Бакачы (ХІУст.) Тым часам у ВКЛ адбыўся самы знакаміты любоўны раман, падрабязнасцяў якога хапіла б на некалькі ладных кніг. Раман і тайны шлюб між вялікім князем літоўскім (адначасова -каралём поольскім) Жыгімонтам-Аўгустам і дачкой віленскага кашталяна Барбарай Радзівілянкай апынуліся ў цэнтры ўвагі грамадства ВКЛ і Польшчы. Сёння гэтая гісторыя сталася ледзьве не хрэстаматыйнай, таму я адзначу толькі некаторыя моманты. Любоўная сувязь Жыгімонта-Аўгуста з Барбарай мела значны ўплыў на ягоны характар, найперш на рашучасць у дзеяннях, стання незалежнай ад маці Боны Сфорцы пазі-цыі. З іншага боку выраз-на засвечыла сябе ханжавітасць вышэйшых колаў ВКЛ і асабліва Польшчы, што праявілася ў адмоўным стаўленні да шлюбу каханкаў (1547). “Гэтаму ажэнству каралёваму паны і ўся шляхта і рыцарства, апрача дому Радзівілавага, не былі радыя і вельмі засмуціліся”, — адзначае з гэтай нагоды “Хроніка Быхаўца”, Неўзабаве пасля шлюбу княства напоўнілася памфлетамі, дзе Барбара за велягурыстасцю мовы фактычна абвяшчалася прастытуткай. Адзін з праціўнікаў шлюбу Андрэй Гурка, збіраючы “кампрамат” на жонку караля вылічыў па імёнах 38 ейных былых палюбоўнікаў-імаверных і неімаверных. Але, не зважаючы на ўсе плёткі, каханне між Жыгімонтам-Аўгустам і Барбарай не згасла, а праціўнікі мусілі адступіць перад рашучасцю караля і вялікага князя. Барбара аддалася мужу целам і душою. “Вашай каралеўскай мосці, свайму міласціваму пану, ад пана Бога жадаю доўга фартуннага здароўя на вечную пацеху мне, найменшай служцы Вашай каралеўскай мосьці”, — пісала аднойчы яна да Жыгімонта-Аўгуста.



Жыгімонт - Аўгуст



Барбара

Смерць Барбары ў 1551 г. выклікала ў Жыгімонта-Аўгуста шок і прыгнобіла яго духова. Не зважаючы на чарговы шлюб, ён меў пабочныя сексуальныя сувязі (“амурныя інтрыгі”), беглы водгук аб якіх патрапіў нават у мемуары наваградскага падсудка Тодара Еўлашоўскага. Апошні прыпамінаў, што пасабляў “ в потребах короля его милости, хоть ми та послуга мерзила”. Як бачым, у гісторыі з Жыгімонтам-Аўгустам і Барбарай хрысціянская мараль адыходзіла на другі план. Праўда і самі царкоўнікі нярэдка не красавалі цнатлівасцю. Між іх быў мітрапаліт Анісіфор Дзевачка, які за амаральныя паводзіны быў пазбаўлены ў 1589 г. сану. Ягоны сучаснік полацкі біскуп Сымон дазволіў сабе даволі сумніўнае для рупліўца хрысціянскай веры выказванне: “Аще девицу встрещещи, буде бесплоден день, аще жа блудницу-получный, благий и много куплдейства полный”.

Натуральна, што існавалі і сапраўды хрысціянскія погляды на мараль, у т.л. і сексуальнае жыццё. Выдатны беларускі філосаф і багаслоў Сымон Будны (1530?-1593) у прадмове да сайго “Катэхізіса” зазначыў, што маральнасць чалавека залежыць ад датрымання ім закону Божага, інакш людзей чакае новы Садом. Садом жа, як вядома, ёсць біблейскім сімвалам разбэшчанасці плоці і духу. Праваслаўны дзеяч Апанас Філіповіч (1597?-1648) лічыў цноту асновай сапраўднай веры. Узгадваючы ў сваім “Дыярыюшы” аголеную жанчыну, якая бегала па вуліцах, ён ігнаруе любыя плоцевыя думкі і параўновае аголенасць з становішчам праваслаўнай царквы ў ВКЛ. У ХУІ ст. езуіты прынеслі ў ВКЛ традыцыю бічавання, як дзейснага сродку для стлумлення парываў плоці. У вершаваных творах Сімяёна Полацкага (1629-1680) палавыя стасункі ў кожным разе называюцца блудам і звязваюцца з д'ябальскімі падкопамі, бо “демон углие плоти разжигает”. Абвяшчаецца, што між плоццю і душой ідзе пастойная вайна. У гэтай вайне за плоць выступаюць пахацімства, пачуцці, жарсці ды “стражныя уды”. Душа ж змагаецца малітваю. За ўсім гэтым пільнаваннем цнатлівасці ў Сімяёна Полацкага нараджаюцца неверагодныя гісторыі маралізатарскага кшталту, сюжэты якіх зацікавілі б многіх псіхааналітыкаў. Вось адзін з прыкладаў. Манах-пустэльнік заганарыўся, а ганарлівасць лічылася страшным грахом. Д'ябал, убачыўшы тое, пастанавіў правучыць манаха. Ператварыўшыся ў дзеву, ён паўстаў перад манаскай кельляй і стаў прасіцца пераначаваць. Манах упусціў да сябе пераўвасобненага д'ябла, які стаў хутка “блудныя глаголы вносити”, распаляючы манаха. Манах, пэўны, што перад ім дзева, займеў неўзабаве “мысль до дела блудного” і быў гатовы блуд учыніць. Але д'ябл рассакрэціўся, рассмяўся і паабяцаў пекла манаху, якога спакусіў на новы грэх... У пекла ж, па словах іншага аўтара ХУІІ ст. Яна Белабоцкага, распуснікаў — “начных кажаноў, за блудам плоці ходкіх” — чакаў жудасны вогнены ложак, на якім бы ім разрывалі чрэвы. Падобныя маралізатарскія гісторыі мелі яўна застрашальна-дыдактычныя мэты і былі распаўсюджаныя і ў Заходняй Еўропе.

Чыста застрашальную функцыю мелі тыя артыкулы Статута ВКЛ 1588 г., што так ці інакш тычыліся сексуальных паводзін. За “чужаложства” (шлюбную здраду), даказанае належным чынам прадугледжвалася пакаранне смерцю. Тая ж кара чакала вінаватага ў згвалтаванні жанчыны. Зразумела, што юрыдычныя санкцыі застрашалі не ўсіх. Прыкладам, шляхціцы ладзілі банкет і, добра натрактаваўшыся, выпраўляліся шукаць прыгод на землях суседа. А ўжо там яны пачыналі “Броти а шебунковати”, збіваючы слуг, сялян , а жанчын незалежна ад стану “крыўдзілі крэпка”. Пакаранне за згвалчванне адбывалася не заўсёды. Часта выратоўвалі злачынцу радавітасць і сувязі. Падобным чынам была ўлагоджана справа аб згвалтаванні паненкі дэпутатам трыбуналу літоўскага (чэрвень, 1636г.). Тым не менш, згвалтаванне лічылася з даўніх пор агідным учынкам. За часы Вітаўта жаўнеры злоўленыя на гэтым змушаліся да павешання сябе саміх. Але ізноў жа многія вычварныя з'явы не міналі земляў ВКЛ. Да нашага часу ходзяць легенды аб лютых панах-гвалтаўніках. Дакументальна засведчана, што ў князя Марціна Радзівіла (перш. пал.ХУІІІ ст.) быў уласны гарэм.

Нярэдкаю з'яваю, напэўна, былі няшлюбныя палавыя стасункі па ўзаемнай згодзе. Я марна шукаў у даступных мне мемуарах і дзённікавых тэкстах сучаснікаў адкрытыя прызнанні аб гэтым. У аўтараў спрацоўваў механізм нутраной цэнзуры, і многае засталося паза тэкстамі. Здаецца толькі ў Альбрыхта Станіслава Радзівіла я знайшоў цікавую з гэтай нагоды згадку. На запознены шляхецкі банкет 2 лютага 1636 г. са знатнымі, але брыдкімі мяшчанкамі з'яўляюцца нарэшце дзве “гладкія і з прытворствам” жанчыны. І аўтар разумее, што “нутро аказалася больш схільным да распуты”, чым да танцаў.

У пачатку ХУІІст. быў запісаны цікавы верш, які з'яўляецца па сутнасці антыподам згаданым вышэй маралізатарскім творам Сімяёна Полацкага, але ў нечым саступае народнай песенна-інтымнай лірыцы.

***Сам я не знаю,***
***як на свети жити,***
***Бывши з телом,***
***на земли Богу не грешити,***
***А я хочу жити***
***и еще грешити,***
***А тут кажут умерти***
***и во гробе гнити.***

Ананімны аўтар стварыў вобраз чалавека, які адмаўляецца ад любых праяваў хрысціянскай маралі.

У завершанне гэтых нататак мне б хацелася прывесці некалькі словаў і словазлучэнняў з скарбніцы старабеларушчыны, якія датычаць тэмы сексу. “Злучэнне”, “венус” — “палавыя стасункі”; “взяти до лона”, “лучитеся”,, “злучатися”, “злучатися на любов”, “любы творити”, ”мети ложе (з кім-небудзь)” — “мець палавыя стасункі”; “лоно” — “палавыя воргаы мужчыны ці жанчыны”, “члонок” — “палавы чэлес”, “ложесно” — “похва”.

Такім чынам у Вялікім Княстве Літоўскім існавалі самыя розныя погляды на секс. Яны фармаваліся пры сутыкненні паганскай і хрысціянскай свядомасці, залежна і незалежна ад грамадскай думкі. Гуманістычныя тэндэнцыі перакрыжоўваліся з пурытанствам, каханне з блудам, узаемнасць з гвалтам... Пашырэнне кола крыніц дасць мажлівасць з цягам часу прасачыць кожную тэндэнцыю больш падрабязна.

*Балахонаў Сяргей, г.Гомель.*

# Дзейнасць падпольнай моладзевай антысавецкай арганізацыі ў г. Лідзе

***Напрыканцы лютага закончыўся конкурс "Паўсядзённае жыццё ў Беларусі: 1945 - 1965", арганізаваны Архівам найноўшай гісторыі. "Наша слова" мае намер паступова друкаваць лепшыя работы. Сёння першая публікацыя. Аўтар Вольга Вялікая з Дзяржынска. Уся праца грунтуецца на архіўных матэрыялах.***

Грамадскія падзеі ў цяперашні час у рэспубліцы характарызуюцца не толькі палітычнай актыўнасцю, аднак і адраджэннем нацыянальных ідэй і духоўных каштоўнасцяў беларускага народа. Крах таталітарызму у пачатку 90-х гадоў даў яму новы шанц для пабудовы дэмакратычнага грамадства. У новых абставінах абуджэнню нацыянальнай свядомасці значнае месца належыць гісторыі, але гісторыі не ідэалагізаванай, загнанай ў "пракруставы ложак" камуністчных дагматаў, а гісторыі аб'ектыўнай, сапраўднай нацыянальнай гісторыі з імёнамі, падзеямі, з'явамі, фактамі, якія на доўгі час былі выкрэслены з гістарычнай памяці беларускага народа.

З адкрыццём шырокага доступу да раней засакрэчаных і таму недаступных да даследчыкаў, архіўных матэрыялаў, з'явілася магчымасць даведацца аб раней невядомых старонках нашай гісторыі. Гэтыя матэрыялы дазволілі пераадолець панаваўшую дагэтуль аднабаковасць ў вывучэнні гсторыі нашага народа. Пачэснае месца было вернута і вяртаецца тым, хто быў неабгрунтавана і безпадстаўна выкрэслены з яе старонак таталітарнай ўладай і залічаны ў лік ворагаў народа на доўгія гады.

У пасляваенныя гады грамадска-палітычнае і культурнае жыццё ў рэспубліцы вызначалася панаваннем ў краіне таталітарнага рэжыму з усімі ўласцівымі яму рысамі і найперш – таталітарным кантролем за паўсядзённым жыццём чалавека. Але не гледзячы на гэтае, 40-50-я гады з'яўляюцца аднымі з найболш цікавых і супярэчлівых гадоў у гісторыі Беларусі. Менавіта яны вызначылі падыходы камуністычнай партыі Беларусі да многіх падзеяў грамадска-палітычнага жыцця пасляваеннага часу і гэтыя падыходы практычна не змяніліся амаль да забароны дзейнасці КПБ у жніўні 1991 г.

Пераможнае заканчэнне Вялікай Айчыннай вайны з нямецкімі захопнікамі ўнесла новыя тэндэнцыі ў палітычнае жыццё грамадства. Пасляваенныя гады характарызуюцца пратэстам некаторых слаёў грамадства супраць савецкай ўлады. У першую чаргу пратэст супраць панаваўшай ўлады выказала моладзь заходняга рэгіёна Беларусі, якая самастойна спрабавала разабрацца ў супярэчлівых рэаліях і з'явах у жыцці грамадства. Аналізуючы гэты фенамен, які яшчэ патрабуе ўсебаковага і глыбокага даследвання, магчыма заначыць, што ён быў не выпадковы.

На Усходзе Беларусі таталітарны рэжым меў досыць доўгую гісторыю і "назапасіў вопыт" правядзення рэпрэсій пачынаючы з 20-х гадоў. Амаль усе, хто быў не згодзен з палітычнымі і ідэалагічнымі рэаліямі савецкай улады былі рэпрэсаваны. На Захадзе рэспублікі склалася зусім іншае становішча. Па-першае, мясцовае насельніцтва знаходзілася пад сталінскай дыктатурай нядоўга і "баяцца рэжым" яшчэ ў поўнай меры не навучылася. Па-другое, многія грамадзяне якія не ўспрымалі савецкую ўладу і тое, што ад яе імя рабілася – правядзенне прымусовай калектывізацыі, масавых дэпартацый насельніцтва заходніх абласцей, рэлігійны ўціск і г.д. уцалелі пасля ажыццяўлення сацыялістычных пераўтварэнняў 1939 – 1941 гг. і не жадалі мірыцца з гэтымі рэалямі. Менавіта таму, ў заходнім рэгіёне ў пасляваенны час і пачынаецца антыбальшавіцкі моладзевы супраціў і звязаны ён перш за ўсё з выступленнямі моладзі супраць савецкай ўлады. Зазначым, што гісторыя беларускага мала-дзёвага антысавецкага руху і барацьбы за нацыянальныя ідэі яшчэ ў поўнай меры не вывучана і не напісана. Адна з першых спроб даследвання гэтай праблемы – выпуск ў 1997 г. выдавецтвам "Наша Ніва" кнігі ўспамінаў пра дзейнасць Саюза беларускіх патрыётаў у 1945 – 1947 гг. "Гарт", артыкула "Да гісторыі стварэння мядзельска-смаргонскага вучнёўскага падполля".

Аднак, архіўныя матэрыялы сведчаць аб тым, што аналагічныя моладзевыя суполкі існавалі і ў іншых гарадах, ды раёнах захаду Беларусі. Гэтыя дакументы – маўклівыя сведкі аб невядомых старонках гэтай барацьбы.

Адны з такіх сведкаў з'яўляюцца дакументы Нацыянальнага Архіва Рэспублікі Беларусь (НА РБ), якія распавядаюць пра стварэнне і непрацяглую дзейнасць у горадзе Лідзе Гарадзенскай вобласці маладзёвай антысавецкай арганізацыі.

... 11 траўня 1951 г. Упраўленне ахоывы Міністэрства Бяспекі Брэст-Літоўскай чыгункі накіравала ў ЦК КП (б)Б пад грыфам "Зусім сакрэтна" спецпаведамленне "Аб ліквідацыі антысавецкай маладзёвай арганізацыі". Аналагічнае спецпаведамленне было накіравана і на імя першага сакратара Гарадзенскага абкама партыі С. Прытыцкага. У спецпаведамленні адзначалася, што ўпраўленнем аховы МДБ Брэст-Літоўскай чыгункі арыштаваны:

**Салдаценкаў Іван Пятровіч**, 1931 г. нараджэння, студэнт Гарадзенскага культпрасветвучылішча, **Параваеў Віктар Фёдаравіч**, 1931 г. нараджэння, рускі; токар вагоннага дэпо, **Казлоўскі Фёдар Пятровіч**, 1932 г. нараджэння, паляк, вучань 9 класа 12 чыгуначнай школы станцыі Ліда, **Каштан Аркадзь Еўстафавіч**, 1931 г. нараджэння, беларус, бухгалтар Гарадзенскага сяльпо Жалудокскага раёна, **Логвін Аляксей Міхайлавіч**, 1934 г. нараджэння, беларус, вучань 8 класа.

Арыштаваныя былі абвінавачаны ў тым, што *"В августе месяце 1950 г. объединившись создали подпольную молодежную антисоветскую организацию, которая ставила своей целью и ближайшей задачей свергнуть советскую власть"*. Акрамя гэтага яны абвінавачваліся ў тым, што планавалі *" ... распустить армию и заменить ее ополчением. Распустить колхозы и передать колхозную землю единоличникам"*.

Аналізуючы вытрымкі з допытаў арыштаваных магчыма зазначыць, што патрабаванне аб перадачы зямлі аднаасобнікам мела пад сабой рэальныя падставы і адлюстроўвала тагачасную рэчаіснасць, існаваўшую ў заходнім рэгіёне Беларусі ў 1944 – 1955 г.г. Гэта рэчаіснасць была ў тым, што большасць сялянства гэтага раёна з'яўлялася аднаасобнікамі. Але адразу ж пасля вайны ў заходніх абласцях Беларусі распачалася калектывізацыя, якая праходзіла пераважна прымусовымі метадамі. Калі, на пачатак 1949 г. у заходніх абласцях рэспублікі налічвалася ўсяго 909 калгасаў, то на пачатак 1 студзеня 1951 г. гэта лічба склала 6054 калгасы, якія аб'ядноўвалі 83,7% аднаасобных гаспадарак. Да канца 1952 г. у заходніх абласцях у калгасах налічвалася 540,3 тысяч: ці 95% сялянскіх гаспадарак.

У выніку правядзення прымусовай калектывізацыі сялянства заходніх абласцей Беларусі было гвалтоўна пазбаўлена зямлі, многія сем'і і заможныя сяляне былі рэпрэсаваны і высланы ў аддаленыя раёны Савецкага Саюза.

Асаблівую цікавасць уяўляе той факт, што І. Салдаценкаў, як кіраўнік арганізацыі, асноўную працу, улічваючы асаблівасці гэтай тэрыторыі і ў першую чаргу варожасць аднаасобнага сялянства да савецкай улады за правядзенне прымусовай калектывізацыі, дэпартацый насельніцтва, прапанаваў весці менавіта сярод сялянства. Сведчаннем гэтага з'яўляюцца вытрымкі з пратако **Хадыкі**,(імя не пазначана ў пратаколах допытаў) які паказаў, што *"Солдатенков сказал, что в настоящее время необходимо ставить основной упор на работу среди крестьянских масс, обещать им уничтожение колхозов и создание мелких крестьянских наделов, фермерского типа"*.

Як бачна, патрабаванне моладзевай арганізацыі аб перадачы зямлі аднаасобнікам адлюстроўвала панаваўшую у іх сем'ях спрадвечную мару аб сваёй ўласнай зямлі і аднаасобнам гаспадаранні на ёй.

Акрамя гэтага, сябры арганізацыі высоўвалі шэраг іншых палажэнняў. Найбольш значнымі з іх з'яўляліся наступныя: *"Объявить свободу партий, различных уклонов и направлений. Дать свободу различным религиозным сектам и группам. Передать легкую и пищевую промышленность в частные руки и отменить всевозможные налоги. взимаемые с населения. Разбить территорию государства на ряд полицейских округов, во главе которых поставить членов их организаций с широкими полицейскими полномочиями. Создать особые органы безопасности с целью тайного наблюдения за руководящими работниками. Дать полную возможность Украине и Белоруссии выйти из состава Советского Союза, а так же другим желающим этого республикам. Создать террористическую группу, которая не входила бы в организацию, но подчинялась бы ей. Назначение этой группы – физическое уничтожение руководителей советского аппарата, а так же добыча денежных средств для организации, путём грабежей"*.

Пры аналізе архіўных дакументаў узнікае шэраг пытанняў – хто, як, калі, стварыў маладзёвую арганізацыю. Адказы на гэтыя і іншыя пытанні знаходзяцца ў вытрымках з пратаколаў допытаў арыштаваных.

Так, арыштаваны па гэтай справе кіраўнік арганізацыі **І.Салдаценкаў** на допыце паказаў, што *" создание антисоветской организации относится к августу 1950 г., первоначально ею руководил* ***Фомин Юрий****, который в данное время призван в Советскую Армию и находится в Кронштадте, а после его призыва, организацию возглавил я"*.

На пытанне следчых, якім чынам сябры арганізацыі планавалі ажыццявіць свае планы і задачы, І. Салдаценкаў адказаў *"По замыслу членов нашей организации всё это должно было произойти путем захвата номенклатурных постов как в партии, так и в организации советской власти, для чего наша организация должна стать более массовой и действовать конспиративно в подполье"*.

Асноўная стаўка арганізатараў падпольнай арганізацыі рабілася на моладзь. Падцверджаннем гэтых слоў з'яўляецца прызнанне, у тым, што *"в организацию надо привлекать в первую очередь молодежь, которой разъяснять, что все проводимые мероприятия советского правительства являются авантюрой и обманом народа"*.

Выконваючы гэта патрабаванне сябры арганізацыі праводзілі працу па ўцягванню ў свае шэрагі новых прыхільнікаў з ліку вучнёўскай і студэнцкай моладзі. На допытах **А.Логвін** паказаў, што *" Выполняя указания Солдатенкова мною лично были вовлечены в антисоветскую организацию ученик 9 класса 2-й средней школы г. Лида* ***Сягло Фёдор, Рудяк Александр*** *и ученик 10 класса той же школы* ***Лапко Михаил****. Указанным лицам я дал задание проводить соответствующую работу по вовлечению новых членов в нашу организацию и об исполнении докладывать мне"*.

Адзначым, што члены маладзёвай арганізацыі планавалі наладзіць кантакт з замежнымі нацыяналістычнымі арганізацыямі і духавенствам. З допытаў арыштаваных бачна, што яны жадалі *"... при первой возможности связаться с белоэмигрантами, находящимися за границей и предложить им совместную работу, добиться от них помощи деньгами и литературой"*.

Сябры арганізацыі не выключалі магчымасці вядзення барацьбы не толькі мірнымі шляхамі, але і збройнай барацьбы, аб чым прызнаўся **І.Салдаценкаў** паведаміўшы следчым, што *"членами нашей организации ставились на обсуждение вопросы приобретения оружия, печатках, множительных аппаратах, шифрах связи и применения тайников, но конкретных решений по этим вопросам не принималось"*. Далей **Салдаценкаў** заявіў, што *"... приобретение оружия, печатных и множительных аппаратов, средств связи и шифра вызывалось необходимостью использования их в антисоветских целях, но только не на данном этапе нашей работы, а в будущем"*.

Аб намеры набыцця зброі сведчаць словы арыштаванага А.Логвіна, які на допыце паказаў, што *"Выполняя указания Солдатенкова я попытался приобрести за деньги оружие у своего знакомого Боярчика Алексея, жителя деревни Фальковичи Лидского района, Гродненской области, но купить пистолеты не успел, так как был арестован органами МГБ"*.

Як бачна з пратаколаў допытаў арыштованых, зброю, шыфры і іншыя неабходныя матэрыялы для падпольнай дзейнасці яны набывалі ў сваіх знаёмых, ці сяброў. Магчыма, гэта з'явілася адной з прычын раскрыцця іх дзейнасці і арыштаў таму, што сярод знаёмых маглі апынуцца і тыя, хто данёс на іх ў органы МДБ.

Сябры маладзёвай арганізацыі планавалі скарыстоўваць і легальныя формы працы, шляхам "асцярожнай" крытыкі мерапрыемстваў афіцыйных уладаў, зрыў мерапрыемстваў, праводзімых камсамольскімі арганізацыямі ў школах, тэхнікумах, вучылішчах вярбоўкай у свае шэрагі новых прыхільнікаў. Красамоўным сведчаннем гэткіх падыходаў з'яўляюцца словы арыштаванага па гэтай справе **Ф.Казлоўскага**, які паказаў, што *"Солдатенков говорил мне и другим членам организации, что нужно вовлекать в нашу организацию как можно больше людей и главным образом тех, кто проявляет недовольство советской властью"*.

На жаль у Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь пакуль не знойдзена дадатковых звестак аб дзейнасці і аб лёсе ўсіх арыштаваных па справе маладзёвай антысавецкай арганізацыі. Архіўныя дакументы сведчаць аб тым, што *"Дальнейшее следствие по данному делу ведётся в направлении вскрытия возможных каналов связи арестованных участников антисоветской организации с националистическим антисоветским подпольем в г. Лида и Гродно, выявление всех участников антисоветской молодёжной организации и лиц подвергавшихся антисоветской обработке, а так же в направлении выявления практической деятельности участников антисоветской организации"*.

Не меншую цікавасць чым дакладная запіска МДБ Брэст-Літоўскай чыгункі уяўляе і дакладная запіска першага сакратара Гарадзенскага абкама партыі С. Прытыцкага, накіраваная першаму сакратару ЦК КП(б)Б М.Патолічаву аб выкрыцці ў Гарадзенскай вобласці антысавецкай маладзёвай арганізацыі. У запісцы, накіраванай у Цэнтральны камітэт камуністычнай партыі Беларусі 18 траўня 1951 г. адзначалася, што *" Из 5 человек арестованных участников организации 4 человека являлись членами ВЛКСМ, что свидетельствует об отсутствии надлежащей воспитательной работы, а также политической бдительности в рядах комсомола"*. Далей С. Прытыцкі з факту існавання маладзёвай падпольнай арганізацыі робіць шырока ідучыя вывады. Ён ў прыватнасці выказвае меркаванне, што *" ...члены организации происходят из различных районов Гродненской области (Гродно, Лида, Желудок) что свидетельствует о разветвленности организации. Программа или план действий говорят о том, что за этой организацией скрывается более опытная и подлая вражеская рука, чем поименованные члены организации"*.

*(Заканчэнне ў наст. нумары)*

# СЛОВА ДА БЕЛАРУСКАГА НАРОДА

## Нацыянальнага грамадскага арганізацыйнага камітэта “Беларусь — 2000 гадоў”

*(Працяг. Пачатак у №№ 12,13)*

Для адпору агрэсіі крыжакоў у 1385 г.ВКЛ заключыла Крэўскую унію (саюз) з суседняю Польшчаю. Вялікі князь ВКЛ Ягайла ў адпаведнасці з дамоваю ажаніўся з польскай каралеваю Ядзвігай і стаў абвешчаны каралём Польшчы, быў закладзены пачатак знакамітай у гісторыі Еўропы каралеўскай дынастыі Ягелонаў. З боку Польшчы адразу былі зроблены спробы падпарадкаваць сабе ВКЛ.

Аднавіў самастойнасць Вялікага Княства Літоўскага, амаль страчаную ва ўмовах Крэўскай уніі, пасля працяглай барацьбы з Ягайлам вялікі князь Вітаўт. У гады яго княжання (1392-1430)ВКЛ дасягнула найбольшага росквіту. У 1422г. ВКЛ была канчаткова далучана Жамойція (гістарычная тэрыторыя сучаснай Летувы). Вітаўт Вялікі ўстанавіў дыпламатычныя адносіны з усімі заходнееўрапейскімі краінамі, з Крымскім ханствам, Асманскай імперыяй (Турцыяй), Масковіяй. У сярэдзіне ХУ ст. адпаведна змянілася і сама назва дзяржавы, яна стала Вялікім Княствам Літоўскім, Рускім (у той час называлася ўсходняя частка Беларусі) і Жамойцкім.

Наступныя князі ВКЛ – Казімір, Жыгімонт Стары, Стэфан Баторый і інш. прадаўжалі дзяржаўнае будаўніцтва, але гістарычныя ўмовы не заўсёды былі спрыяльнымі для гэтага і Княства часам страчвала свае тэрыторыі.

Вялікае Княства Літоўскае было поліэтнічнай краінай. Асноўную частку яго складалі беларусы і балты, жылі таксама ўкраінцы, палякі. У канцы ХІУ ст. на Беларусі з’явіліся татары, запрасіў на вайсковую службу князь Вітаўт. У ХУІ ст. татары перайшлі на беларускую мову пісалі на ёй святыя кнігі арабскім пісьмом. У канцы ХІУ ст. у ВКЛ пачалі засяляцца габрэі з краінаў Заходняй Еўропы, хутка яны пачалі займаць прыкметнае месца ў этнічнай структуры, гаспадарчым і культурным жыцці ВКЛ. На нашыя землі ўцякалі ад пераследу маскоўскія стараверы, імі быў заснаваны горад Ветка на Гомельшчыне. Усе жыхары ВКЛ з гонарам называлі сябе літвінамі.

Адметнай рысаю беларусаў-літвінаў з’яўляўся дэмакратызм, закладзены яшчэ ў вечавых традыцыях Полацкага княства часоў Рагвалода і Усяслава Чарадзея і прыўнесены ў ВКЛ пасля далучэння да яго Полацка. Дэмакратызм фармаваў дух свабоды, маральныя і праўныя ўяўленні пра незалежнасць, разуменне каштоўнасці чалавечай асобы. Менавіта такія прынцыпы і былі закладзены ў галоўныя заканадаўчыя дакументы Княства, найперш у Звод законаў – Статут Вялікага Княства Літоўскага. Вядомы тры рэдакцыі Статута: 1529, 1566, 1588. Стваральнікам найбольш дасканалага трэцяга Статута быў знакаміты палітычны дзеяч сярэднявечнай Беларусі, вялікі канцлер ВКЛ – Леў Сапега. Трэці Статут дзейнічаў на працягу 250 гадоў, да 1840г. Ён выкарыстоўваўся ў якасці ўзору ў другіх краінах для распрацоўкі ўласнага заканадаўства і дзеля таго быў перакладзены на польскую, расейскую, нямецкую мовы. Статут быў першым у Еўропе зводам законаў, падрыхтаваным на аснове мясцовага права. Ён быў напісаны на зразумелай народу беларускай мове. Як вядома, у Еўропе ў той час многія краіны ў значнай ступені карысталіся рымскім правам, асновы якога былі выкладзены лацінскай мовай. Усё дзяржаўнае справаводства ВКЛ вялося на беларускай мове, аб чым яскрава сведчаць дакументы архіва Княства, які мае назву Метрыка ВКЛ. Гэты збор складае каля 600 тамоў справаводства вялікакняскай канцылярыі на беларускай, польскай і лацінскай мовах. Метрыка ВКЛ вывезена ў Расею, захоўваецца цяпер у Маскве.

Статут заклаў у нашай краіне асновы прававой дзяржавы, дзе панаваў закон, а не ўласная воля валадара. Ужо ў першым Статуце (1529 г.) прадугледжвалася, што ўсе жыхары ВКЛ павінны былі судзіцца адным гэтым правам. Паводле другога Статута (1566 г.) усе паны, шляхта, баяры, мяшчане і простыя людзі абвяшчаліся паўнапраўнымі грамадзянамі. Прадугледжвалася абмежаванне ўлады вялікага князя праз такія інстытуты дзяржаўнасці як Сойм і Рада. Быў закладзены падзел уладаў на заканадаўчую, выканаўчую і судовую. Статут ВКЛ быў самым прагрэсіўным у Еўропе і па праву лічыцца ў свеце класічным узорам заканадаўства эпохі сярэднявечча.

Заканадаўчыя дакументы ВКЛ адлюстроўвалі сацыяльны склад грамадства. Асноўнымі сацыяльнымі катэгорыямі грамадзян ВКЛ былі сялянства, мяшчанскае саслоўе і шляхта. Кіраўніцкую і арганізацыйную ролю ў дзяржаве выконвала шляхецкае саслоўе. Шляхта выбірала караля, удзельнічала ў кіраўніцтве дзяржаваю, несла на сябе асноўны цяжар справы абароны Айчыны, развівала культуру і асвету краіны. Найбольш вядомымі беларускімі шляхецкімі родамі былі Агінскія, Алелькавічы, Астрожскія, Гальшанскія, Гаштольды, Друцкія, Кішкі, Пацы, Радзівілы, Сапегі, Солтаны, Тышкевічы, Хадкевічы, Чартарыйскія. Беларуская шляхта падтрымлівала сувязі з еўрапейскім дваранствам, удзельнічала ў рыцарскіх турнірах у Еўропе. Прадстаўнік рода Солтанаў у канцы ХУ ст. атрымаў бургундскі Ордэн Залатога Руна, самую высокую ўзнагароду таго часу, якая давалася толькі за вялізныя заслугі, атрымаць яе марылі многія еўрапейскія дваране.

Вялікае Княства Літоўскае мела ўласную дзяржаўную сімволіку, яна была звязана з гістарычным лёсам краіны і ўвабрала ў сабе адметнасць беларускай зямлі і яе насельніцтва. Дзяржаўным гербам ВКЛ у 1295г. стаў герб Навагрудка і Полацка – “Пагоня”. Узброены вершнік, які сімвалізаваў вобраз абаронцы нашай дзяржавы, спачатку ўжываўся як вайсковы. Першым “Пагоню” выкарыстаў вялікі князь Віцень. На пачатку ХУІ ст. з’явілася бел-чырвона-белая харугва, якая стала правобразам нашага дзяржаўнага нацыянальнага сцяга. Найбольш ранняя выява яе ёсць на карціне, прысвечанай бітве з маскоўскімі войскамі пад Оршаю ў 1514 г., што захоўваецца ў музеі ў Варшаве. Дзяржаўная сімволіка ВКЛ знікла разам са знікненнем самога ВКЛ. Яна была адроджана ў другой палове XIX ст. паўстанцамі Кастуся Каліноўскага. Дзяржаўнымі сімваламі “Пагоня” і бел-чырвона-белы сцяг сталі зноў пры абвяшчэнні ў 1918 г. Беларускай Народнай Рэспублікі, а потым у 1991 г., калі была абвешчана незалежная Рэспубліка Беларусь. Аднак у 1995 г. нашы гістарычныя сімвалы ізноў былі адменены, замест іх вернуты па сутнасці савецкія сімвалы, якія не маюць пад сабой гістарычнай глебы.

ВКЛ стварыла і сваю цвёрдую эканамічную аснову, мела незалежную грашовую сістэму. Галоўная роля ў эканамічным жыцці ВКЛ належала сельскай гаспадарцы. Аснову яе складалі буйныя феадальныя гаспадаркі – фальваркі, дзе вырошчваліся жыта, пшаніца, авёс, бабовыя культуры, гародніна, лён, каноплі. Развівалася паляўніцтва, рыбалоўства, бортніцтва. Існавалі промыслы: лесахімічны (гналі дзёгаць, смалу), вытворчасць шкла, вінакурэнне, ганчарства, гарбарніцтва, мылаварэнне, будаўнічая вытворчасць, дрэваапрацоўка, апрацоўка каменю і інш. У ХІУ ст. у гарадах і мястэчках налічвалася каля 200 рамесніцкіх спецыяльнасцяў.

Важнае месца займаў гандаль. Праз Беларусь праходзілі асноўныя гандлёвыя шляхі, гэта ўдала скарыстоўвалася дзеля эканамічных інтарэсаў Княства. ВКЛ гандлявала сельскагаспадарчымі прадуктамі з многімі краінамі Захаду. Асноўную ролю ва ўнутраным гандлі адыгрывалі кірмашы, якія ладзіліся ў гарадах і мястэчках. З другой паловы ХУІІІ ст. пачаўся новы перыяд у эканамічным жыцці ВКЛ. Феадальныя адносіны паступова замяняліся капіталістычнымі. Пачала развівацца таварна-грашовая сістэма, сельскагаспадарчая вытворчасць набывала таварны характар. Развівалася спецыялізацыя гаспадарак і рэгіёнаў, будаваліся мануфактуры.

У эканамічным жыцці ВКЛ шырока ўжывалася з боку дзяржавы сістэма заахвочванняў ў павялічэнні эфектыўнасці іх гаспадарак, выкарыстоўваліся розныя ільготы, гнуткае падаткаабкладанне, што дапамагала пераадольваць эканамічныя заняпады, якія прыносілі войны і іншыя неспрыяльныя абставіны.

Самым распаўсюджаным тыпам паселішчаў у ВКЛ былі вёскі, але развіваліся і гарады. У XIII –ХІУ стст. На тэрыторыі, адпаведнай сучаснай Беларусі, было каля 40 гарадоў. У сярэдзіне ХУІІ ст. існавала 42 гарады і 425 мястэчак. Асабліва хутка развіваліся беларускія гарады, што атрымалі Магдэбургскае права. Усталяванае там гарадское самакіраванне стварала найлепшыя ўмовы для іх жыццядзейнасці. Першай Магдэбургскае права атрымала Вільня ў 1387 г.

Гісторыя ўтварэння і фармавання Вялікага Княства Літоўскага, выкладзеная на падставе ранейшых і апошніх навуковых даследванняў незалежных гісторыкаў, сведчыць пра недакладнасць канцэпцыі, якая раней панавала ў гістарычнай навуцы. Сутнасць яе заключалася ў тым, што ВКЛ была нібыта створана толькі балцкімі плямёнамі, якія заваявалі абшары “ад мора да мора” і займелі такім чынам вялізную балцкую дзяржаву. Гэтая канцэпцыя была адзначна прынята артадаксальнымі гісторыкамі савецкай Беларусі, якія не праводзілі самастойных навуковых даследванняў, а ў інтарэсах савецкай імперыі павінны былі таксама сцвярджаць, што беларусы ніколі не былі самастойным народам. Прымалася раней яна і ў Летуве. Менавіта, сучасная Літоўская Рэспубліка (Lietuva) выступае сёння адзінай па назве пераемніца Вялікага Княства Літоўскага на падставе таго, што яе гістарычныя тэрыторыі ўваходзілі ў склад ВКЛ. Нашы суседзі яшчэ ў 1918 г. пад час абвяшчэння на гэтых землях незалежнай дзяржавы паклапаціліся пра адпаведную назву новай краіны, якая б сведчыла пра яе гістарычнае мінулае. Летувіская Рэспубліка ўзяла таксама за аснову свайго дзяржаўнага герба “Пагоню”, яна ў нязначна змененым варыянце носіць цяпер назву “Віціс”.

Сёння паміж беларускімі і літоўскімі гісторыкамі знойдзена паразуменне ў канцэптуальных аспектах гісторыі паходжання ВКЛ. На навуковай сустрэчы ў мястэчку Гервяты Астравецкага раёна Беларусі 19 – 20 чэрвеня 1992 г. былі выпрацаваны агульныя падыходы да вывучэння гісторыі ВКЛ. Гісторыкі дамовіліся, што “ВКЛ можа вызначыць, як літоўска-беларускую, ці – роўназначна – беларуска-літоўскую дзяржаву”, у развіццё якой зрабілі значны ўклад і другія народы.

Стварэнне ВКЛ мела лёсаноснае значэнне ў гісторыі беларускай нацыі. Калі б не было гэтай магутнай дзяржавы, калі б не было еднасці і адвагі яе народа, калі б не было самаахвярнай адданасці нашых продкаў роднай Бацькаўшчыне, не ўстаялі б яны супраць двухсотгадовай крыжацкай экспансіі, супроць мангола-татарскай навалы, як не выстаялі перад ёю ўсходнія суседзі і на доўгія часы трапілі ў няволю. У гэтым рэгіёне Еўропы быў прыпынены наступ мангола-татарскіх ордаў на Захад, таму заходне-еўрапейскія народы не зведалі жорсткасці гэтых заваёўнікаў.

Захаваліся звесткі пра пераможныя бітвы беларускіх ваяроў з мангола-татарамі. У 1362 г. войскі ВКЛ на чале з князем Альгердам разграмілі аб’яднаныя войскі трох татарскіх ханаў каля Сініх Водаў і вызвалілі украінскія землі ад мангола-татарскага прыгнёту. У 1506 г., у бітве на р.Лань пад Клецкам войскі Княства пад кіраўніцтвам Глінскага разбілі 30-тысячнае татарскае войска.

Крыжацкі наступ на нашу Бацькаўшчыну быў спынены ў 1410 г. бліскучаю перамогаю пад Грунвальдам. У грунвальдскай бітве ўдзельнічалі аб’яднаныя ў выніку падпісання Крэўскай уніі войскі ВКЛ на чале з Вялікім князем Вітаўтам і войскі Польскага каралеўства на чале з польскім каралём беларускага паходжання Ягайлам. Армія Тэўтонскага ордэна, мацнейшая ў Еўропе, была нашчэнт разбіта. Пяць стагоддзяў пасля Грунвальда ніводзін ўзброены немец не ступаў на беларускія землі і землі нашых усходніх суседзяў.

У канцы ХУ ст. новая небяспека для нашай краіны паўстала на Усходзе. Вялікае Княства Літоўскае вымушана было ваяваць з Маскоўскай дзяржаваю. У 1480 г. Масковія канчаткова вызвалілася ад татара-манголаў і пачала наступ на Захад, імкнучыся захапіць суседнія беларускія землі. Маскоўскі князь Іван III прыпісваў сабе ролю збіральніка ўсіх праваслаўных зямель Усходняй Еўропы, такой палітыкі прытрымліваліся і ўсе наступныя расейскія цары.

Першая вайна паміж ВКЛ і Масковіяй разгарэлася ў 1492-94 гг. У выніку наша краіна страціла Вяземскае княства і другія землі.

Пад час новай вайны з Масковіяй у 1500-1503 гг. былі спустошаны нашы землі каля Смаленска, Оршы, Мсціслава, Полацка, Віцебска, ВКЛ страціла 29 гарадоў і 70 воласцяў.

Усходнія, паўднёвыя і цэнтральныя часткі ВКЛ моцна пацярпелі ад маскоўскай экспансіі ў 1507 – 1508 г.г.

Вялікія страты панесла наша краіна пад час наступнай вайны з Масковіяй у 1512 – 1522 г.г., калі ў 1514 г. быў захоплены Смаленск. Навалу з усходу на некаторы час перапыніла бліскучая перамога у гэтым жа 1514 г. у бітве пад Оршай 30-тысячнага войска Вялікага Княства Літоўскага на чале з гетманам найвышэйшым Канстанцінам Астрожскім 80-тысячнага маскоўскага войска.

У 1534 – 1537 г.г. наша краіна перажыла чарговы наступ маскоўскіх войскаў. Былі спалены Тураў, Мазыр, Брагін і іншыя гарады.

У 1562 г. войскі Івана ІУ Жахлівага спустошылі Мсціслаўшчыну, ваколіцы Шклова, Оршы, Віцебска, Магілёва, а праз год сам цар з 60-тысячным войскам аблажыў Полацк. Пад акупацыяй маскавітаў апынулася амаль уся Паўночная Беларусь. Акупанты нішчылі занятыя землі, выводзілі ў палон насельніцтва. Адметнай старонкаю гэтай вайны стала бітва на рацэ Ула 26 студзеня 1564 г., у якой войскі ВКЛ атрымалі бліскучую перамогу над маскоўскімі захопнікамі.

Агрэсія з усходу стала галоўнай прычынай таго, што Вялікае Княства Літоўскае вымушана аб’яднацца на канфедэральнай аснове з Полькім каралеўствам. У 1569 г. у выніку падпісання Люблінскай уніі была створана новая канфедэратыўная дзяржава – Рэч Паспалітая. На жаль у выніку гэтага аб’яднання ВКЛ страціла землі Падляшша, Валыні, Падолля і Кіеўшчыны, якія адышлі да Польшчы.

*(Працяг у наступным нумары)*

# Абразкі ад Уладзіміра Содаля

### ЦЯЖКІ ПСЕЎДАНІМ

Ядвігін Ш. — псеўданім самабытнага нашага пісьменніка Антона Лявіцкага. Псеўданім гэты вельмі загадкавы. Нашы даследчыкі б'юцца ўжо больш за восемдзесят гадоў і ніяк не могуць яго разгадаць. Але гэты псеўданім, высвятляецца, не толькі загадкавы, але яшчэ і цяжкі для некаторых нашых граматыстаў. Многія не ведаюць, як пісаць: Ядвігін Ш. ці Ядзвігін Ш. — праз мяккае "дзь". З гэтай нагоды звернемся да гісторыі псеўданіма. Можа гэтая гісторыя неяк адкажа на наша пытанне. Сваім псеўданімам Ядвігін Ш. пачаў карыстацца з 1904 года. Спачатку ў расейскамоўным друку — "Виленском вестнике", а затым, у 1905 годзе — у "Белорусском вестнике". З расейскамоўных газет гэты псеўданім перавандраваў у беларускамоўны друк з расейскамоўным утварэннем — Ядвигинъ прынамсі, у першую беларускую газету "Наша доля", дзе Ядвігін Ш. дэбютаваў з першым беларускамоўным апавяданнем "Суд" у 1906 годзе.

Па законах беларускай граматыкі ў псеўданіме павінна было адбыцца чаргаванне г-з: Ядвіга — Ядвізін. Але гэтае чаргаванне не перададзена.

Можа гэтая акалічнасць і змушае беларусаў з моцнай генетычнай памяццю адчуваць, што ў згаданым псеўданіме граматычна не ўсё ў парадку, чагось не хапае, чагось не стае, штось не так. Але што не так? Успомнілі: не стае "з"!

Успомніць успомнілі, дык вось толькі не туды, куды належыць, яго ўляпілі. А так па правілах нашай граматыкі мы павінны пісаць: Ядвіга ... Хопчык чый? — Ядвізін. Але, на жаль, Ядвігін, ніколі не карыстаўся такой формай свайго псеўданіма, гэтак жа, як і Ядзьвігін. Толькі Ядвігін. І для нас такое непісанне павінна быць святое.

Што ж да самога псеўданіма, то яму даставалася і дастаецца. Наша тэлевізійная гісторыя ведае, калі з блакітнага экрана дыктар называў Ядвігіна Ш. Ядвігіным Трэцім.

Дыктара падвяла машынапісная апіска — машынка ў літары "Ш" выбіла толькі тры вертыкальныя палачкі — Ядвігін Ш — і не адбіла ніжнюю рысачку пад імі. Вось атрымаўся Ядвігін Трэці.

Называлі Ядвігіна Ш і Ядвісяй Ш.

І гэтакіх метамарфозаў з псеўданімам Ядвігіна Ш. можна прыгадаць безліч. Усе яны сведчаць пра адно: пра нашу слабую дасведчанасць асобаю згаданага пісьменніка і ягонай творчасцю.

Псеўданім Ядвігін Ш. створаны ад жаночага імя Ядвіга. Кажуць, калісь стрэлася на жыццёвым шляху Антося Лявіцкага якаясь яснавокая Ядвіга. Моцна запала яна ў яго душу. Вось у яе гонар назваўся Антось Лявіцкі з Карпілайкі Ядвігіным. А Ядвігін, Ядвізін — гэта той, хто належыць Ядвізе.

### Я.Ш.

Ядвігін Ш. часта замест поўнага свайго псеўданіма карыстаўся і яго кароткім — Я.Ш., Ш., Ja. S.,S. Найчасцей крыптонімамі Ядвігін Ш. падпісваў свае невялікія газетныя допісы. Цікавы і загадкавы псеўданім Антона Лявіцкага — Ядвігін Ш. Але не менш цікавы сэнс тоіцца за ягонымі крытонімамі, ініцыяламі. Паводле назіранняў даследчыкаў, кожная літара ў крыптоніме, кожны ініцыял мае сваё значэнне, свой глыбокі змест. У крыптоніме Ядвігіна Ш. — Я.Ш. — першая літара Я. Яна апошняя ў алфавіце, але хоць яна ў нашым алфавіце і апошняя, а па значэнні яна першая, бо яна сцвярджае сутнасць асобы. Я — гэта першае слова, якое сказаў чалавек, калі вучыўся гаварыць. Я — паказвае і на інтэлектуальнасць асобы чалавека. Не ведаю, наколькі гэткае вызначэнне праўдзіва ахоплівае ўсіх асоб, у каго ў крыптонім уваходзіць літара "Я". Што ж да Ядвігіна Ш., то такое вызначэнне цалкам адпавядае асобе пісьменніка. Ён і напраўду быў і шляхетны, і творча здольны пісьменнік.

А на што ж паказвае ў крытоніме Ядвігіна Ш. гук Ш? Ён, найперш, самы шыпячы ў нашым алфавіце. Другое — за гэтым шыпеннем стаіць бескампраміснасць і рэўнасць асобы. Гук Ш (ша) — гэта яшчэ і выклічнік, сэнс якога — ціха! Ша! — Ціха!

Ці ведаў усе гэтыя тонкасці даследчыкаў ініцыялаў Ядвігін Ш., калі абіраў сабе такі псеўданім, такія яго ініцыялы, крытоніма?

Мо і ведаў? А мо гэта выпадковае супадзенне. Выпадковае, але шчасліва дакладнае, бо і напраўду, калі верыць вызначальніку ініцыялаў, то за ядвігінашаўскімі ініцыяламі Я.Ш. якраз стаяць такія азначэнні. Гэта што да псеўданімных ініцыялаў Ядвігіна Ш. Але ж Ядвігін Ш. меў радзінныя ініцыялы А.Л. — Антон Лявіцкі. А што ж тоіцца за гэтымі ініцыяламі. Паводле вызначальніка ініцыялаў А — гэта сіла і ўлада, Л — логіка, вялікае вынаходства, якое мяжуе з дэталёвай скурпулёзнасцю.

### ЖАРТОЎКІ З ЯДВІГІНАШАХАЎСКАЙ КЛАДОЎКІ

Гэта агульна вядома: Ядвігін Ш. любіў вострае, дасціпнае слоўца. Ягоныя сучаснікі згадваюць: дзе быў Ядвігін Ш., там заўсёды смех, анекдоты, паважлівыя жарты. Гэтыя жарты ён поўнай жменяй чэрпаў з народных крыніцаў. Шмат якія з іх, бясспрэчна, з ваколіц Карпілаўкі, ад карпілаўскіх людзей. Неяк аднаго разу падумалася: "А як з гумарам ладзяць сённяшнія землякі Ядвігіна Ш.? Ці жартуюць? Ці да жартаў ім?"



Ядвігін Ш.

Вёска Карпілаўка, паблізу якой колісь месціўся фальварак Ядвігіна Ш., абязлюдзела. Найстарэйшая жыхарка яе Надзея Гаеўская. Яна з дваццатага году. Бацькі яе былі калісь суседзямі Лявіцкіх. Кажу спадарыні Надзеі, што колішні іхні сусед Лявіцкі вельмі любіў дасціпы. "То як цяпер у Карпілаўцы з жартамі? — пытаюся у спадарыні Надзеі. — Ці жартуюць цяпер карпілаўцы? Ці самая яна памятае смяшлівае?"

— Сёе - тое, — памятаю кажа яна. — А вось усе даўнейшыя смяшлівыя людзі пазміралі. Ад аднаго з іх чула такое:

*"... Жыў тут у нас адзін такі. Звалі яго Дзявочка і от нешта прыйшло яму ў галаву з праваслаўных ды ў каталікі перакінуцца... Надумаўся дый і перакінуўся. От адзін раз запрог валоў, ўзяў з сабою сына і паехаў да касцёла ... Прыехаў ... Валы паставіў за касцёлам, сына пры іх пакінуў, а сам у святыню зайшоў. Зайшоў і пацеры папольску шэпча: "У імя айца, святога духа ... Аман!" — кажа ён. А ксёндз быў побач. Чуе, як той малітву нявечыць і ціха шэпча: "Дзе подзял сына?" А той доўга не думаючы, яму на гэта: "За касцёлам стаіць, валы сцеражэ". Падумаў, што ксёндз пра яго сына пытаецца. А ксёндз хацеў сказаць, што слова "сын" у малітве прапусціў. "Цо ты пляцеш?" — кажа недаўменна далей, святар. А гэты, што з праваслаўных у каталікі перакінуўся, дый зноў неўпапад: "Кашэчкі ды сявенькі..." Раззлаваўся ксёндз і прагнаў Дзявочку з касцёла." Едзь, дурань, кажа дадому, дахаты. Навучыся, як пацеры казаць!" Паехаў. Ехаў і ўсю дарогу думаў, за што ж яго ксёндз з касцёла прагнаў, дый так ні да чаго не дадумаўся".*

Паміж іншым, Ядвігін Ш. вельмі любіў дасціпы, змешаныя на моўным непаразуменні. Некаторыя з іх ён надрукаваў у зборніку "Беларускія жарты". (1915) Згадаем адзін з іх.

*"Спаткаліся раз беларусы з мазурамі. Вось мазуры пытаюць:*

*— Хто вы такія ?*

*— Мы мужыкі, — адказваюць беларусы.*

*— Ага, музыцы... А адкуль ідзеце ?*

*— Ад Буга!*

*— Ага, ад Бога! А што вы нясеце на кіях?*

*— Пасталы.*

*— Ага, апосталы! Бачыце! — звярнуўся ўрэшце адзін з мазураў да сваіх: "Я добра казаў, што гэта нялюдзі. Гэта апосталы і музыкі ад Бога!"*

*ххх*

*Пытаўся беларус масскаля:*

*— Калі ў вас Вялікдзень?*

*— У Пятроўку, кажа маскаль.*

*— Не, не тое. Калі ў вас Уваскрэсенне?*

*— Эва! У нас штотыдзень васкрэсенне бывае".*

Як бачым вельмі сугучны першы досціп, які і расказала Надзея Гаеўская, з Ядвігінашаўскім, запісаным Ядвігіным Ш.

У іх амаль адна і тая ж стылістыка, адзін і той жа выток — народнае жыццё. Сабраныя і надрукаваныя Ядвігіным Ш., яны і сёння нас цешаць сваёй дасціпнасцю, распавядаючы, як жылі нашы продкі, як яны думалі, разважалі, з чаго смяяліся. І што гэта быў за смех: ад шчырай душы ці смех скрозь слёзы.

### ЯК У ЯДВІГІНА Ш.

Першага лютага 1999 года з стоса старых газет, наўгад, якую рука ўзяла, выцягнуў "Труд" за 23 чэрвеня 1995 года. Пакруціў газеціну і так, і гэтак — і вока маё запынілася на зацемцы"Тайна Флобера". У ёй вялася гаворка пра ягоны раман "Успаміны пачуццяў". І які радок я ні чытаў у той натаццы, усё на нашага Ядвігіна Ш. цягнула. І найперш з іх: Флабэр умеў хаваць свае таямніцы. Лічыў, што пісьменнік не павінен нічога пакідаць пра сябе, апроч сваіх твораў.Усе свае таямніцы ён шыфраваў крыптонімамі. Але якімі? "П-ні Ш., пан-Ш., Я". Гэта ж так блізка да вытокаў псеўданіма Ядвігіна Ш., да ягоных крыптонімаў, да ягоных таямніцаў. І што яшчэ вельмі цікава, расшыфроўку да сваіх крыптонімаў Флабэр напісаў якраз у першыя дні 1869 года — у год народзінаў Ядвігіна Ш., якраз той парою, калі выйшаў згаданы раман Флабэра. А раман гэты пра вечнае: пра каханне юнага Флабэра і славуты трохкутнік, зашыфраваны у ягоных крыптонімах: "П-ні Ш., пан Ш., Я", якія даследчыкі творчасці Флабэра разгадалі толькі праз шмат гадоў пасля смерці пісьменніка. І высветлілі вось што.

... Пятнаццацігадовы юнак палка закахаўся ў якуюсь сталую жанчыну... Гэта было выдатна!" — Згадваў Флабэр... Цікавую гісторыю можна было б напісаць, але я яе не напішу, і ніхто іншы не напіша..." І ўсё ж напрыканцы жыцця напісаў. Але ніхто не здагадваўся, што гэты твор пра самога аўтара, пакуль не натрапілі на падрыхтоўчыя запісы, у якіх і былі занатаваны згаданыя крыптонімы, ды яшчэ на лісты да пані Элізы Шлезінгер. Яны якраз і адказалі, што тоіцца за крыптонімамі п-ні Ш., пан Ш., Я."

" Я кахаў адну жанчыну з чатырнаццаці да дваццаці гадоў, нічога не кажучы нічога ёй пра гэта, не дакранаючыся да яе", — прызнаваўся Флабэр. Ён любіў не толькі яе, але і ўсё, што звязана з ёй: мэблю, прыслугу, дом, вуліцу". І пра гэта каханне не павінен быў ведаць ніхто, ніхто ...

... Усё, як у Ядвігіна Ш.. Нават краптонімы тыя ж — "п-ні Ш., пан Ш. Я".

Ядвігін Ш., Я.Ш.

І матывы крыптонімаў адны і тыя ж самыя!

Каханне з усімі яго таямніцамі.

## Пра беларускія ручнікі

Дзякую за рэгульрнае надсыланне "Н.С.". Дзякую за прыгожы ліст-паквітанне. Атрымала і дадатак, бачыны 5 -8, за 25 лістапада. Цікава, чаму ён выдаецца асобна. У ім ёсць каштоўны артыкул праф. А.Грыцкевіча. Цешуся, што "Н.С." яго надрукавала. Прыгожыя здымкі ручнікоў. Аўтар артыкула "Выстава "Беларускі ручнік" кажа, што цяперашнія ручнікі так розняцца ад тых калісьнейшых.

Розняцца яны таму, што маюць іншае ад калісьнейшых ручнікоў прызначэнне. Цяперашні ручнік мае толькі практычнае значэнне. Ім выціраюць рукі, твар, цела і посуд.

Калісьнейшы беларускі ручнік, так сказаць, меў рамантычнае прызначэнне. Адыгрываў важную ролю ў розных рытуалах. Ува ўзор тканым ручнікам з набажэнствам ахінала жанчыны святыя абразы — іконы на покуці, дый у царкве. На прыдарожных крыжох з набажэнствам і любоўю абвівалі ногі ўкрыжаванага Хрыста.

Ручнікам матка накрывала, каб не сох, бохан хлеба — таксама святасць — на стале.

Старанна з майстэрствам ткала шматлікія ручнікі дзяўчына на сваё вяселле, каб было іх удоволь і для свата і маладой на дарункі. Найважнейшай і найбольш віднай асобай, пасля маладых, на вяселлі быў сват. Ён праз усё вяселле насіў на сабе перакінуты праз плячо прыгожы ручнік. Сват, відаць, забяспечваў гасцей і напіткамі, калі вясельнікі прыпеўваючы яму пагражаюць:

***"Калі, Сват, гарэлкі не дасі, караваю трасцу ты з'ясі !..."***

На віду ў хаце развешаны каларытны тканы ручнік быў гонарам гаспадыні і важным упрыгожваннем жылля.

Ды і цяпер беларускія цэрквы за мяжой без каларытных ручнікоў не абыходзяцца. У часе святкаванняў 25-га САКАВІКА, ДНЯ ГЕРОЯЎ БЕЛАРУСІ ды іншых урачастасцяў, грамадскія залі ўпрыгожваюць арыгінальнымі беларускімі тканінамі, ручнікамі, якія, як рэліквіі, у свой час былі прывезены эмігрантамі на чужыну.

***Раіса Жук-Грышкевіч, Канада.***

Рэдактар Станіслаў Суднік

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:*
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:*
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* ns@lida1.lingvo.grodno.by

*Рэдакцыйная калегія:*
Людміла Дзіцэвіч, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Лілея Сазанавец, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні ўпраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі і друку Гарадзенскага аблвыканкама. 231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Кошт па дамове.Газета падпісана да друку 5. 04. 99 г.
Наклад 4300 асобнікаў. Замова № 996.
**Падпісны індэкс:** 63865.
**Кошт падпіскі:** 1 мес.- 20 000 руб., 3 мес.- 60 000 руб.
**Кошт у розніцу:** 7 000 руб.